PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (1898) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 27 ВЕРАСНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## „НАШ ХЛОПЕЦ”



Смерць былога прэм'ер-міністра ПНР і генерала Людовага войска польскага Пятра Ярашэвіча прымусіла мяне задумацца над нашай беларускай доляй-нядоляй. Не чытаў я ягоных успамінаў, але пэўна не піша ён пра ўсё. Ягоны сябра расказваў мне калісьці, што перад вайной разам закончылі яны беларускую настаўніцкую семінарыю ў Нясвіжы. Польскія ўраднікі рассылалі выпускнікоў гэтай семінарыі абы далей ад роднай старонкі. Яны абодва апынуліся на Мазоўшы. У 1939 годзе Пётр Ярашэвіч вырваўся на бацькаўшчыну, будаваць Беларусь. Саветы саслалі яго ў Сібір, адкуль і вярнуўся ў Польшчу з ген. Берлінгам.

Сам помню, як пад канец саракавых гадоў Ярашэвіч прыехаў па сваіх прыватных справах у Эльбланг. Сядзелі мы пад нашай царквой (хоць сам ён быў каталік) на былых нямецкіх могілках і гутарылі на чужой зямлі па-свойму пра жыццё-быццё. Сказаў мне ён тады:

„Бачыш, малады беларус... цяжка быць беларусам”.

Ярашэвіч адрокся беларушчыны. Кажуць людзі, што толькі раз паказаўся калісьці на беларускім балі ў Варшаве...

Ніводзін з „нашых хлопцаў” не зайшоў так высока як Пецька, але і час ягонага праўлення быў самы цяжкі для беларусаў. Калі чую ў тэлебачанні прамовы былых „уладальнікаў ПНРу”, які то заслужаны быў таварыш Ярашэвіч для Польшчы, і як сумаваў, калі выкінулі яго з партыі, няўмольна прыпамінаюцца мне радкі Купалы:

„Над беларускай беднай хатай
Як полка вырвана з труны
Вісіць чужы сцяг, а трымае
Хто?
— Беларускія сыны”

**ЮЛ.**

**********************************************************************

## КУПЛЯЙЦЕ Ў РУСКІХ

Такі абразок, які бачыце на здымку /зробленым у Крывяцічах/, стаў штодзённым у нашых мясцовасцях. У кожную, нават найменшую вёсачку, даехалі госці з СНД са сваімі таварамі. От, прывозяць усялякае барахло, кажуць людзі, але затое таннае.

У час, калі ў польскіх крамах цэны пачалі "раўняцца з сусветнымі", такіх гандляроў вітаюць усюды з адкрытымі рукамі. Ніхто ўжо не едзе ў гміну, дзе зазвычай бывае "жалезная" крама, за сякерай, касой ці сашніком. Усё гэта можна купіць, калі не на сваім панадворку, дык каля малачарні.

Можна купіць таксама вопратку на будзень, гумовыя боты, дзіцячыя цацкі і нават харчы. Праўда, у летнюю спёку не надта прывабна выглядае нагрэтае мяса, але ж людзі бяруць. Усё гэта таму, што танна.

На базары ў Бельску можна купіць амаль усё, ад іголкі да бензапілы, асабліва ў чацвер або нядзелю. Ёсць тут і ордэны Савецкай Арміі, з гадоў мірных і ваенных, ёсць жывыя чарапахі, якія, паводле аднаго ўзбека, "зимой спят как медведи". У мінулы чацвер за 50 тысяч злотых можна было купіць палявы мундзір савецкага байца - нават гузікі ў ім былі з пяціканечнымі зоркамі. Дванаццаць прэзерватываў каштавалі ўсяго восем тысяч /аднак тут, у выпадку бракоўнага тавару паслядоўнасці не менш важкія, чымсьці ад нясвежага мяса/.

Нейкія літоўцы прадавалі чырвоную ікру па 20 тысяч за банку. Тэрмін прыгоднасці да ўжытку канчаўся, але прадаўцы талкова заўважылі: ніхто нікога не прымушае ж купляць.

У Бельску наогул многа прыбалтаў. Іхнія тавары, на фоне астатніх рэспублік былога Савецкага Саюза, нейкія чысцейшыя, у акуратнейшай упакоўцы. Але, зразумела, каштуюць даражэй. Напрыклад, даволі прыгожую дзіцячую каляску можна было купіць за 900 тысяч, а гэта ўжо цана амаль такая ж, як у краме.

Знікла апошнім часам са столікаў і прадаўцоў аўтамашын гарэлка. Відаць мытнікі ўзяліся за гэты тавар на мяжы, бо высокапастаўленыя асабістасці ўсё ў тэлевізары наракалі на страты дзяржаўнага скарбу ў выніку прытоку алкаголю з Усходу.

Як яно з гэтымі стратамі дзяржавы, дакладна невядома. Аднак вядома, што бюджэт не аднае сям'і вытрымлівае толькі дзякуючы таварам з базара. А колькі каларыту паявілася на нашых вуліцах, які фальклор родзіцца. Дык - не гледзячы на хмыканне эканамістаў, палітыкаў і рознай масці спецыялістаў па санітарных справах - купляйце ў "рускіх"!

**ак**



## НАДЗЕЯ

З незразумелым смуткам у душы вярталася я ў канцы жніўня з Менска. Нібы ўсё было ў парадку: цікавы міжнародны з'езд беларусістаў у Маладзечне, сустрэчы ў Менску з цікавымі, вядома, людзьмі...

Нервавала даўжэзная чарга на граніцы, неспакойны натоўп дзяльцоў, хлопцы, штораз падыходзячыя з просьбай перакінуць іх самаходам праз граніцу і абяцаючыя дапамогу ў правязенні "тавару", ды мытнік, які доўга і недаверліва мацаў у пошуках гарэлкі маю адзіную пакупку - плед, а пасля, паціснуўшы плячыма, кінуў: "Странная вы женщина" - і хлопнуў крышкай майго багажніка.

А ўсё ж такі той боль і смутак зыходзіў з Менска. Нейкая безнадзейнасць у вачах людзей, якіх сустракала я на вуліцы... Непрывычныя твары маладых, не асветленыя звычайнай, бескалопотнай усмешкай...

Мінула ўжо поўнач, калі я пад'язджала да Кузніцы, дзе на гэтых дзесяць дзён пакінула ў знаёмых сваю ўнучку. Вырашыла забраць малую адразу, па дарозе, нягледзячы на ноч і мае нулявыя здольнасці ў самаходнай механіцы.

Гаспадары разбудзілі малую. Без слоў прытулілася яна да мяне. Хуценька стала збіраць свае сумачкі. Хацела ехаць дахаты.

На шашы стаяла цемра. Ніхто нас не даганяў і не абганяў. Зрэдку толькі біла ў вочы святло едучых насустрач самаходаў. Трымаючы ў левай руцэ руль, правай рукою я момантамі брала малую за цёплую ручку. Яна сядзела ззаду, па дыяганалі ад мяне. Хацелася неяк суцішыць яе ў гэтым нашым начным адзіноцтве. І так ехалі мы па пустой шашы, моцна трымаючыся за рукі; часамі дзяўчынка тулілася шчочкай да маёй далоні.

- Сумавала ты па хатцы? - спыталася я.

Відаць, цемрадзь, наша самотнасць і мая рука выклікалі ў дзіцяці хвалю нештодзённай шчырасці; малая адказала:

- Па дзвюх хатках...

- ?

- Ну, бо вашая хатка - таксама мая. Я ж там нарадзілася!

- Заўсёды твая, - заўважыла я.

- Ведаеш, бабуня, - сказала ўнучка, - я нікому яшчэ гэтага не гаварыла. Нават ні маме, ні таце. Але часамі па вечарах я без прычыны плачу. Гляджу ў вакно ў напрамку вашага дома і ўсё думаю, чаму я цяпер не з вамі...

У чорнай сцяне ночы бліснула святло сустрэчных фараў, але і так ніхто не здолеў бы ўбачыць маіх лагодных слёз. Мне падумалася: не ўсё яшчэ загублена, пакуль нашыя ўнукі хочуць быць разам з намі.

На душы ў мяне праяснела. Словы дзяўчынкі-першакласніцы з іншага пакалення, якой не сніцца, як мне, па начах вайна, а явяцца сёння кубікі "Lego" ды сабака Плюта з фільмаў Дыснея, гучалі для мяне як надзея, як гарантыя таго, што нашыя справы знойдуць сваіх верных паслядоўнікаў.

**АДА ЧАЧУГА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

... dzisiaj wściekłość ogarnia decydentów nie tylko na widok tygodnika NIE, ale także jakże skromnego naszego „Kuriera Podlaskiego".

*(Kurier Podlaski, nr 173)*

Можа, і добра, што сярод дэцыдэнтаў няма беларусаў, бо зноў былі б усяму вінаватыя.

* * *

Jeżeli chodzi o sytuację polityczną, to poważnym zagrożeniem dla Polaków mieszkających tutaj są Białorusini, Jest ich tutaj naprawdę pełno w urzędach, redakcjach gazet itp. Co tydzień w białostockich gazetach można spotkać jakiś artykuł o tych skurwielach, że jacy to są oni uciskani itp. Gówno prawda, właśnie że nie ma komu z nimi walczyć.

*(Skinhead Polski, nr 1)*

Вінаватыя — не вінаватыя, ды ўсё роўна skurwiele.

* * *

Беларускія пагранічнікі запынілі грамадзяніна Нямеччыны, які нелегальна перайшоў каля Коматаўцаў польска-беларускую мяжу. Раней гэты чалавек такім жа чынам перайшоў польска-нямецкую мяжу. Выбірайся ў Манголію, бо тамака, паводле апошніх слоў, „гушчыня насельніцтва меншая".

*(Gazeta Wyborcza, nr 213)*

А ў нас усё накірунак вандровак адваротны — з усходу на захад. А там жа гушчыня насельніцтва большая.

* * *

8 верасня г.г. у Менску на плошчы Незалежнасці афіцэры з Беларускага згуртавання вайскоўцаў прынеслі прысягу на вернасць беларускаму народу. Міністэрства абароны Беларусі, як і належала спадзявацца, паставілася да гэтай падзеі непрыхільна. *Gazeta Wyborcza (nr 213)* каментуючы выказванне аднаго з членаў БЗВ, што арганізацыя гэтая з'яўляецца апалітычным і патрыятычным грамадскім рухам, піша:

*To stwierdzenie łatwo można podważyć, choćby przypominając, że to właśnie członkowie Zrzeszenia zażądali w lipcu wydalenia z Białorusi pracujących tu polskich księży, oskarżając ich o polonizowanie białoruskich katolików.*

Nie zadzieraj z polskim księdzem, żołnierzu?!

* * *

W Polsce istnieją 154 partie polityczne, niedługo będzie 200.

*(Polityka, nr 37)*

Сярод іх: Partia Sukcesu i Uśmiechu, Międzynarodowe Centrum Obywatelí Świata, Prywatna Partia Obywatelí Świata, Partia Rozumu, Unia Restytucji Monarchii, Polski Ruch Monarchistyczny, Partia Królewska, Partia Rzemiosła Polskiego, Unia Demokratyczna Straży Pożarnej III Rzeczypospolitej, Polska Partia Przeciwników Niszczenia Ojczyzny, Związek Komunistów Polskich. І больш за сотню хрысціянскіх. Найменшае uparty(nie)nie назіраецца на Беласточчыне. Гіне традыцыя, гіне!

* * *

Najstarsza cerkiew prawosławna w obrębie dóbr białostockich powstała w 1517 r. w Dojlidach w sąsiedztwie istniejącego tam dworu — піша Юзэф Марошэк у квартальніку *Białostocczyzna, Nr3.*

А ў *Rubieżach* мы нядаўна чыталі, што праваслаўе на гэтай зямлі паявілася ў XIX ст. як вынік чужога палітычнага бандытызму. Здурнець можна, чытаючы гэтых беластоцкіх гісторыкаў...

* * *

Tegoroczne Międzynarodowe Targi Bronią w Sopocie cieszyły się bardzo dużym zainteresowaniem dzieci.

*(Gazeta Wyborcza, nr 216)*

****************************************************************

# З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Міністр замежных спраў Кшыштаф Скубішэўскі** падаўся ў Нью-Йорк на XLVII Асамблею Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Выступіць ён з прапановай лепшага і больш канкрэтнага дзеяння гэтай арганізацыі ў галіне сусветнага міру і бяспечнасці. Шэф польскай дыпламатыі зверне ўвагу на тое, што захаванне міру гэта не толькі справа палітычных і ваенных дзеянняў, але ўся сфера грамадскай і гаспадарчай дзейнасці ААН.

**Міністры абароны Польшчы і Латвіі** падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве паміж сваімі ўстановамі. Пагадненне прадбачвае дапамогу з боку Польшчы ў абучэнні латышскіх салдат і абмен вопытам у галіне абаронччай палітыкі, а таксама ўзаемную падтрымку пры ўваходзе ў еўрапейскія структуры.

**Міністр сельскай гаспадаркі Габрыель Яноўскі** запэўніў люблінскіх сялян, што "ўрад створыць сістэму гарантый, каб зрабіць магчымым продаж асноўных зямельных пладоў па цэнах, якія дадуць мінімум даходу і шанц на развіццё".

Еўрапейскі парламент **зацвердзіў** большасцю галасоў трактат аб далучэнні Польшчы да еўрапейскіх супольнасцей.

**Парламент Украіны** ратыфікаваў трактат аб дружбе, супрацоўніцтве і добрым суседстве, які быў падпісаны 18 мая г.г. у Варшаве падчас візіту прэзідэнта **Леаніда Краўчука** ў Польшчу.

**Беларускі ўрад** зацвердзіў узоры гранічных стаўбоў, якія будуць размешчаны на дзяржаўнай мяжы. Двухметравыя стаўбы, памаляваныя ў бела-чорныя палосы з гербам "Пагоня", спярша будуць размешчаны на граніцы з Літвой і Латвіяй. З эканамічных прычын на мяжы з Польшчай чырвона-зялёныя знакі былога Савецкага Саюза будуць перамаляваны на беларускія колеры.

**Сеймавая камісія канстытуцыйнай** адказнасці разглядала прапанову прыцягнуць **Войцеха Ярузельскага і Чэслава Кішчака** да канстытуцыйнай і крымінальнай адказнасці перад Трыбуналам стану за знішчэнне ў снежні 1989 года пратаколаў пасяджэнняў Палітычнага бюро ЦК ПАРП з 1982-1989 гадоў. Камісія будзе працягваць працу ў гэтай справе.

**Раённая пракуратура** ў шведскім горадзе Істад паведаміла, што перадала ў суд абвінаваўчы акт супраць пасла ў Сейм **Анджэя Яна Анджэйчака** з Канфедэрацыі незалежнай Польшчы, якому ставіцца закід у кантрабандзе дзевятнаццаці кардонак папяросаў у Швецыю.

**З салодкай кантрабандай** на польска-чэхаславацкай граніцы змагаюцца польскія мытнікі. "Яшчэ некалькі тыдняў таму назад цяжка было ўявіць, каб нехта перапраўляў кантрабандай цукар", - сказала прэсавы прадстаўнік Галоўнай мытнай установы ў Пярэмышлі Магдалена Пэльц. Апошнім часам на кантрольна-прапускным пункце ў Барвінку /Кросненскае ваяводства/ мытнікі кожны дзень вяртаюць назад звыш 10 тон цукру. Кантрабандай займаюцца палякі, якія вяртаюцца з Венгрыі і Славакіі.

**Горад Беласток** расцягваецца на абшары 8975 гектараў, у тым ліку аж 1598 га - гэта індывідуальныя сельскія і лясныя гаспадаркі і 246 га - агародныя ўчасткі. Адміністрацыя дзяржаўных лясоў распараджаецца 1,5 тыс. га, а ПГРы - 130 га. 29 га займаюць равы і воды, 1071 га - камунікацыйныя шляхі, а 41 га прыналежыць гміннай супольнасці, створанай у выніку адмены прыгоннага права ў мінулым стагоддзі.

**Толькі кожны другі студэнт у Беластоку** мае шанц атрымаць жыллё ў інтэрнаце. У Медыцынскай акадэміі, у якой вучыцца 2,5 тысячы студэнтаў, ёсць 831 месца для навучэнцаў з-па-за Беластока. Клопатаў з жыллём няма толькі ў студэнтаў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Беластоку.

**Ваяводская публічная бібліятэка ў Беластоку** ліквідавала бібліёбус. Гэтая аўтобусная бібліятэка абслугоўвала жыхароў кварталаў, распаложаных на акраінах Беластока.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* „Бежанцы" – трагедыя беларусаў Беласточчыны ў часе I сусветнай вайны.
* Ці варта яшчэ гаспадарыць?– задумоўваецца Сакрат Яновіч.
* Як Андрэй Гаўрылюк адпачываў у Відаве.
* Вайна ў Мілейчыцах.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**СВЯТА, ЯКОЕ ЗНОЎ З НАМІ**

8 верасня ў Менску на плошчы Незалежнасці адбылося Свята беларускае вайсковае славы, прысвечанае 478 угодкам Аршанскай бітвы. Менавіта 8 верасня 1514 года 30-тысячнае беларускае войска ўшчэнт разбіла 80-тысячную армію маскоўскіх захопнікаў.

Зрэшты, сёлетняе свята насіла неафіцыйны характар. Яго наладзілі Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і іншыя дэмакратычныя арганізацыі. Аднак афіцыйныя ўлады Беларусі, відаць, баючыся гневу „старэйшага брата" — Расеі, не вельмі прыхільна аднесліся да гэтага свята. Больш таго, Міністэрства абароны рэспублікі пагразіла звольніць з войска тых афіцэраў, што прымуць падчас свята прысягу на вернасць беларускаму народу. Тым не менш свята адбылося, і жадаючых прыняць неафіцыйную прысягу было шмат як сярод афіцэраў тэрміновай службы, так і „рэзервістаў".

**РАССУДЗІЦЕ ІХ, СУДДЗІ**

На мінулым тыдні ў Менску адбылася тэарэтычная канферэнцыя Беларускага народнага фронту і канфедэрацыі прадстаўнікоў Інстытута Крыбла Фонду свабоднага кангрэсу ЗША.

Адметна, што выступіўшы на канферэнцыі, віцэ-прэзідэнт Інстытута Крыбла Джон Экснiяс параіў беларускім дэмакратам падаць у суд на Вярхоўны Савет за наўмыснае зацягванне тэрміну правядзення рэферэндуму. Наіўны амерыканец, відаць, не можа нават уявіць, што суд на Беларусі ўсё яшчэ залежыць ад кіруючых колаў рэспублікі.

**БЛІЗКА ВАЎЧЭР, А НЕ ДАСТАНЕШ**

Толькі адно прадпрыемства на Беларусі выкуплена прыватнымі асобамі. А прыватызавана на 1 ліпеня 1992 года 128 прадпрыемстваў камунальнай і рэспубліканскай уласнасці. Мяркуючы па гэтых дадзеных Дзяржкамстата, да сапраўднай прыватызацыі яшчэ далёка. Тым больш, што да таго часу, пакуль не будзе праведзена пераацэнка фондаў прадпрыемстваў, не будуць прыняты законы „Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці" і „Аб імянных чэкавых кніжках у Рэспубліцы Беларусь" беларусы могуць толькі марыць аб абяцаных ваўчэрах.

**І ПАЙШЛІ МЫ Ў ЛЮДЗІ**

Днямі ў Менску было адкрыта аддзяленне Праграм развіцця Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў (ПРААН). Беларусь стала першай краінай Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якая наладзіла такія цесныя сувязі з адной з самых уплывовых міжнародных эканамічных арганізацый.

Галоўная місія ПРААН на Беларусі — дапамагчы нашай рэспубліцы хутка і якасна збудаваць гмах рынкавай эканомікі. У прыватнасці, з фондаў гэтай арганізацыі выдаткавана 1,4 мільёна долараў на падрыхтоўку беларускіх бізнесменаў за мяжой.

**ЗА ДЗЯРЖАВУ КРЫЎДНА**

Зусім нядаўна ў Менску ля самага Дома Урада невядомыя вандалы падпалілі нацыянальны сцяг і герб Рэспублікі Беларусь. Як ні дзіўна, але праваахоўныя органы нават і не збіраюцца ўзбуджаць крымінальную справу ў адносінах да злачынцаў.

**„БЕЛАТОН" ЗАДАЕ ТОН**

Першая ў гісторыі Беларусі нацыянальная фірма грамзапісу „Белатон-Рэкордс" адкрылася нядаўна ў Віцебску. Застаецца спадзявацца, што неўзабаве з'явяцца і кружэлкі, запісаныя на „Белатон-Рэкордс".

**САМІ З ВУСАМІ**

У Беларусі створана ўпраўленне марскога флоту. Зараз па словах капітана далёкага плавання дырэктара Беларускай марской кампаніі „Белфлот" Міхаіла Саўчанкі, вядзецца перапрацоўка розных варыянтаў набыцця суднаў.

**ПАСМЯРОТНАЯ РЭАБІЛІТАЦЫЯ**

Адкрыты чарговы помнік ахвярам сталінізму непадалёк ад райцэнтра Зэльва ў лясным урочышчы Амельнае, дзе ў верасні 1939 года былі расстраляны каталіцкія святары. Помнік пабудаваны на сродкі раённага аддзялення Саюза палякаў Беларусі.

**А НЕЗАЛЕЖНЫ ПРАФСАЮЗ СУПРАЦЬ...**

Пракуратура рэспублікі, кантрольная палата і Міжнародная арганізацыя працы павінны разглядаць справу: Незалежны прафсаюз гарнякоў Беларусі супраць прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Справа ў тым, што Кебіч падпісаў пастанову „Аб захаванні заканадаўства аб дзяржаўным сацыяльным страхаванні", якая супярэчыць дзейнічаючым цяпер законам. Пастановай Савет Міністраў абавязвае кіраўнікоў забяспечыць паступленне грашовых сродкаў у фонд сацыяльнага страхавання Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, а Незалежны прафсаюз гарнякоў якраз у гэтую федэрацыю не ўваходзіць.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# АПОШНІ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ

"Каб чалавек быў ужо на пенсіі, - цяжка ўздыхнула жанчына з Чыжоў, - дык мог бы да канца глядзець гэты канцэрт. А так, тыя халерныя свінні ды каровы не дадуць"!

Чыжы гэта багатая, дагледжаная вёска. Жыхары тут у большасці - гаспадары, а не як па іншых вёсках адно пенсіянеры. А гаспадару няма адпачынку нават у свята. Таму далёка не ўсе змаглі дачакацца канца выступленняў, балазе трэба было тэпаць да сваіх справункаў. А канцэрт на пляцоўцы ля самай Гміннай управы ў нядзелю 13 верасня працягваўся дзесьці да гадзіны шостай.

Праўда, былі і такія, як гэты дзядзька з півам, на якога жонка пры людзях крычала: "Што ты за чалавек, вунь госці ў хаце, зяць прыехаў, а ты тут швэндаешся"! Тады калегі таго дзядзькі давай тлумачыць кабеце: "То ж фэст тутака, беларускае свята, а ты яго дахаты цягнеш. Трэба цешыцца, што пагадаваў дзяцей, дачку замуж выдаў, а не крычаць на яго. Няхай цяпер вып'е піва ў добрай кампаніі, песняў родных паслухае".

Слухаць было сапраўды што і каго. У Чыжах выступілі: "Крыніца" з Гародні, "Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, "Цаглінкі" з Ляўкова, хор Беластоцкага аддзела БГКТ, хор Гайнаўскага дома культуры, бельскія "Маланка" ды "Васілёчкі", "Медуніца" з Ашмян.

Арганізавалі фэст, як заўсёды ў такіх выпадках, БГКТ і мясцовая гмінная ўлада. А прыняць гасцей - як след, з пачастункам - парупіліся члены калектыву "Чыжавяне". Яны так стараліся, бегалі вакол іншых, што самі ўжо не выступілі. Але нас тут і так усе аж надта добра ведаюць, казалі яны, няхай паглядзяць прыезджых.

Аднак глядзець было нязручна. Сонца пасля поўдня няспешна плыло над дахам клуба, каля якога прымасцілася сцэна, і ўвесь час свяціла ў вочы шматлюднай публіцы. Людзі жмурылі вочы, засланяліся зялёнымі галінкамі, хаваліся ў цяньку. Некаторыя адыходзілі далей - на траву, і там з півам ці марожаным адлежваліся ў промнях вераснёўскага сонца, пад гукі прыемных мелодый. На шчасце Сяргей Лукашук давёз з Бельска гукаўзмацняльную апаратуру, бо чыжоўская не вытрымала надта ўжо ўзвышанага, рэлігійнага тону Аляксандра Баршчэўскага і села адразу пасля яго прамовы. "Крыніцы" і "Хлопцам-рыбалоўцам" давялося спяваць без мікрафонаў. Іх ледзь чулі, таму што сцэна мела вельмі слабую акустыку. Але пасля, калі давезлі ўзмацняльнікі, усё пайшло добра.

Падчас фэсту свае карціны паказваў мастак Аляксей Аляксееў з Гародні. Ягоныя працы можна было купіць, але не было відаць, каб людзі праяўлялі вялікае зацікаўленне мастацтвам.

Як звычайна, можна было ўспамагчы Беларускі музей у Гайнаўцы. Кастусь Майсеня і ягоныя супрацоўнікі дзеля гэтай мэты прывезлі кніжную латарэю. Кніжкі можна было купіць і ў "белавежцаў". На іхнім століку паявілася свежае выданне - двухмоўны беларуска-польскі альманах "Гасцінец".

Чыжоўскі фэст быў апошнім, які Беларускае таварыства арганізавала ў гэтым, трэба сказаць, вельмі пявённым годзе. Здаецца, урэшце БГКТ занялося тым, чым павінна, а менавіта прапагандаваннем беларускай культуры на Беласточчыне. Добра было б толькі, каб у будучыні арганізатары задумаліся, як узбагаціць змест такіх фэстаў. Каб не выступалі ўсё тыя самыя людзі з такой самай гаворкай. Пакуль гэтыя фэсты ў мясцовасцях далёкіх ад сябе, дык яшчэ неяк удаецца, але з цягам часу манатонія прыесца.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**




*Мерапрыемства праходзіла за гэтай брамай.*



*Бельская „Маланка" ўжо ў новых уборах.*



*Публіка хавалася ад сонца як магла.*

# НА СПЛЕННЕ Ў ЧЫЖЫ

28 жніўня еду я ў Чыжы, каб пабачыцца з сястрой Лідай. У гэты дзень у Чыжах вялікае свята — Спленне. Выязджаю з Відава матарынкай, еду па жвіроўцы, па баках бачу — ПГР пакасіў, паараў зямлю, пад лесам лубін не скошаны. У лесе духмяны пах яліны. За Агароднікамі „Чортава яма"; цёпла, ніхто не купаецца. У Локніцы Марыя Бесяда ўжо сем гадоў солтысам. У будынку былой школы крама — прадае Марыя Сахарчук. Малако возяць у Пасынкі і Агароднікі. Алёша Ігнацюк —добры каваль, усё ўмее наладзіць. Валодзя Дудзіч адчыніў кіёск з півам — тамака ў яго заўсёды шмат людзей. За Локніцай добрая жвіроўка. Мінаю Падрэчаны, ужо відаць купалы новай царквы ў Чыжах.

У Чыжах спачатку пайшоў на пошту. Запытаўся ў кіраўнічкі пошты, Людмілы Філіманюк, колькі чыжаўлян чытае „Ніву". Аказваецца, два лістаносцы, Васіль Білевіч і Пятро Кануровіч не носяць ніводнай „Нівы". У гэтай беларускай вёсцы газет не чытаюць зусім, адно ў пятніцу прадаюць „Газету Всполэчну". Чаму „Рух" не пасылае туды „Ніву", гэта ж цікавая газета, кажуць жыхары Чыжоў. У Чыжах ёсць ГСаўская крама, якую вядзе Яўгенія Якімюк, і шэсць прыватных крамаў. Адну з іх, якую ўжо 2 гады трымае Андрэй Сцепанюк, я наведаў. У вёсцы малады солтыс— Андрэй Ціханюк, дбае, каб быў парадак у Чыжах.

Каля царквы шмат самаходаў, стаяць на ўзбочынах, на газончыках. Так ставіць самаходы нельга, дзе ж тая паліцыя? Царква ў Чыжах новая, з трыма купаламі. У сярэдзіне ўсё яшчэ стаіць рыштаванне. Святаром у Чыжах Іван Сцепанюк, дапамагае яму Іван Раманчук. Праз год святкаванне Сплення будзе ўжо ў новай царкве. Іканастас у царкву робяць мастакі з Менска, Віктар Доўнар і Алесь Лось. Жывуць яны ў пустым доме, дзе абсталявалі сабе майстэрню. Абодва — выпускнікі Тэатральна-мастацкага інстытута, вельмі добра размаўляюць па-беларуску. Падаравалі царкве адну ікону, а другую намалявалі па заказе адной з парафіянак — велікамучаніцу Варвару, якую тая перадала царкве якраз на Спленне. Папалудні, недзе каля другой гадзіны, людзі са святарамі пайшлі ў хрэсны ход вакол царквы. Вечарам у Чыжах былі музыкі.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

### МАКСІМЮК НЕ ДАГЛЕДЗЕЎ

У „Ніве" ад 20 верасня Ян Максімюк у сваёй публікацыі „Маці і сын" — пра творчасць Ларысы і Юркі Геніюшаў — прапусціў два кніжныя выданні іх паэзіі; важныя, бо з'явіліся яны на свет у цяжкія часы. Менавіта, намаганнямі беластоцкага Літаратурнага клуба Саюза польскіх пісьменнікаў выпушчана ў 1981 годзе невялікі зборнічак польскіх перакладаў прозы Юркі „Na początku było tylko Słowo". Больш ён не прычакаў асобнай кніжкі

Існаваўшае ў падполлі Беларускае незалежнае выдавецтва займела рэлігійныя вершы Ларысы Геніюш, якія апублікавала друкападобным спосабам у выглядзе асобнага сшытка „Dziewiać vieršaŭ", у 1987 г.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

НА МЯЖЫ

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**Частка XI**

Звязванне сённяшняй сітуацыі з боскімі карамі за грахі характэрнае для старых і пажылых размоўцаў. Матыў гэты не выступае ў людзей маладзейшых. Частка маладзейшых лічыць, што да ўлады дарваліся людзі са скрайным эгаізмам, людзі, якія кіруюцца імкненнем да нажывы. Для такога тыпу людзей характэрнае выказванне саракагадовага селяніна: "Ну ведомо, у Польшчы далі цяпер свабоду ўсім. Цяпер ужо ніхто не баіцца ні партыі, ні міліцыі, ні суда. Рабі што хочэш. А ведомо, што чалавек гэто такая жывіна, катора без біча ходзіт у бокі і ў шкоду. От, усе і разышліся. Ніхто ўжэ цябе не лае і не праследуе за тое, што ты збагацеў. Калісь бывало, калі ты збудаваў дом або купіў таксоўку то зараз цябе бачылі: гавары, даказуй, дзе ўзяў грошы. Паказуй квіты і дакументы на ўсё. Даказуй, што ты нявінны. А сягодня? Рабі што хочэш. Ну ты і сам бачыш, што ў нашай вёсцы пачалі будаваці летнія домікі каля нармальнае хаты. Домікі гэты будуют з дзерава. Будуют тые, у каго ўвогуле німа лесу. Дзерава ў тартаку яны не купляют, асігнацыі не мают, але досок і балькоў поўно. Скуль яны? Вядома, што ўсе з жондовага лесу. А чы ты бачыў, каб хоць адзін раз да кого прыехала паліцыя, каб спытала, адкуль ён узяў дзерава? Чы спісала хоць адзін пратакол? Чы быў хоць адзін суд? Барані Божэ, нічога такога не было. А ты пайдзі ў лес. Лесы ўсе радчэйшы і радчэйшы. Затое домікаў на падворках і дзялках усё больш. От і бачыш, як тут у вёсцы, так і ў цэлым краю: бяры-дзяры колькі ўдасца. Калі бярэш-дзярэш, тады ты маладзец, калі жывеш учціво, тады ты дурак. От, тому і валіцца край, за тое багацяцца адзінкі так, як не багацелі ніколі. Не ведаю толькі, як доўго можэ быці такі балаган? Можэ ты ведаеш, то скажы, бо я не знаю".

Частка сярэдняга пакалення схільна скідаць віну за выступаючае зло на замежных капіталістаў, якія знаходзяць у Польшчы спрыяльныя варункі для заснавання сваіх інтарэсаў і ўзбагачэння.

Пяцідзесяцігадовы селянін так бачыць гэту праблему:

„Гэто ўсё ідзе ад міжнароднага капіталу. Тое, што ў Польшчы і ў Савецком Союзі звалілі старую ўласць, гэто заслуга ані Валэнсы, ані нават касцёла, а толькі заграні чнага капіталу. Нібось, там працавалі дзесяткі лет штабы разумных людзей і гатовілі ў нас развал. Падшукалі адпаведніх людзей, ну скажэм такого Гарбачова або Ельцына і памаленьку зрабілі тое, што зрабілі. Мы, ўсходні народы, пакуль што не можэм зраўняцца з немцамі, шведамі чы англічанамі. Тые хітрэйшы і працаваць яны лепш умеют, чым мы. Захад ужэ пачці што ўсё дастаў з свае зямлі, а ў нас і Савецком Союзі яшчэ много засталося. Ну і лясы яшчэ маем. От, гэто сыр'ё і лесы ім патрэбны. Ты бачыў, як столетні лес вырубала ангельска фірма „Фурналь" каля вёскі Цярэмкі? Не пакінулі ані пнёў, ані галінак. Забралі ўсё. О, так пачысцят і ўсю Польшчу, і цэлы былы Савецкі Союз. Захаду не патрэбны нашы тавары. Ім давай нашэ сыр'ё і танныя рукі. О, стуль прыдзе найбольшэ зло. А ты мне падхвальваеш капіталізм. Ён добры, але не для нас."

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БАЛАХОВІЧ

*пачатак н-рах 37 і 38*

**ПОКЛІЧ БАЦЬКІ**

*Праз цёмныя хмары на чужай*
*старонцэ*
*Зірнула на нас цёпла роднае сонцэ*
*І гоман пачуў я з раднай стараны:*
*"Свабода калоціцца ў нашэ ваконцэ,*
*За Бацькаўшчыну ўсталі яе ўсе сыны!"*
*Сынкі! а мы што-жа?*
*Нам будзе ня гожа,*
*Каб мы не пайшлі на падмогу!*
*Смялей, не аглядайцесь,*
*Хутчэй сабірайцесь*
*І будзем гатовы ў дарогу!*

Станіслаў Булак-Балаховіч
25.XI.1919 г.
Рэвель /Талін/

**У БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА**

Беларусы пачалі арганізаваць свае войска страшэнна позна, калі іншыя нацыянальнасці былой Імперыі мелі ўжо свае палкі, дывізіі і корпусы. Толькі ўвосень 1917 г. /31.X - 6.XI/ адбыўся з'езд беларусаў - ваякаў Заходняга фронту і прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў XII арміі, Балтыцкага флоту і Румынскага фронту. З'езд выбраў Беларускую вайсковую цэнтральную раду і яе Выканаўчы камітэт са старшынёй С. Ракам-Міхайлоўскім і намеснікам старшыні лейт. Канстанцінам Езавітавым. Камітэт даручыў фармаванне беларускіх вайсковых часцяў ген. Кандратовічу.

Кандратовіч зусім не разумеў абставін, у якіх давялося яму дзейнічаць. Калі беларускія вайскоўцы кончылі свае нарады, грымнула Кастрычніцкая рэвалюцыя. Панам сітуацыі на Беларусі стаў бальшавіцкі галоўнакамандуючы заходнім фронтам Мяснікоў. Беларуска-бальшавіцкія адносіны ў Мінску ад самога пачатку сталі варожымі. Белвайскцэнтррада фармавала тут І Беларускі мінскі пяхотны полк, а бальшавіцкі Савет камісараў Заходняга фронту - І Мінскі рэвалюцыйны полк. Глаўкамзап Мяснікоў рашыў нарэшце пакончыць з беларусамі і распусціў Беларускі мінскі полк, а ноччу з 17 на 18 снежня разграміў І Усебеларускі кангрэс.



*Генерал-маёр Булак-Балаховіч у 1919 годзе.*

Рада усё-такі не спыніла дзейнасці і паціху рыхтавалася да перавароту. Бальшавікі дзейнічалі больш рашуча і ноччу з 31 студзеня на 1 лютага 1918 г. арыштавалі частку Рады. На вестку аб гэтым нападзенні зварухнуліся іншыя беларускія вайскоўцы. У Віцебску Беларуская вайсковая рада Паўночнага фронту ўзяла верх над чырвонагвардзейцамі і пераняла ўладу, рыхтуючыся на падмогу Менску. На Менск пачаў прабівацца таксама беларускі конны полк з Оршы. На жаль, паказалася, што тая частка БВЦ Рады, што засталася на свабодзе, не сумела запанаваць над падзеямі. Пры адсутнасці кіруючага цэнтра ўвесь уздым скончыўся нічым.

Але і бальшавікі былі толькі часовымі пераможцамі. Іхняя дэлегацыя ў Бярэсці аддала Беларусь немцам. 19 лютага бальшавікі пакідаюць Менск, у якім уладу пераймае БВЦ Рада, дзеляцца ёю пакрысе з Польскай вайсковай арганізацыяй. Немцы не мелі намеру дзяліцца ўладай з нікім і раззброілі як беларусаў, так і палякаў па ўсёй Беларусі. Беларускі корпус, які ўдалося стварыць на Румынскім фронце, сам разышоўся дадому, дахаты.

Беларускае войска стала стварацца нанава ў Вільні, якая разам з Гроднам і Беластокам была далучана немцамі да літоўскай дзяржавы. Пры літоўскім урадзе існавала міністэрства беларускіх справ, а пры літоўскім міністэрстве абароны - беларуская секцыя. У снежні 1918 г. пачалася арганізацыя Беларускага пяхотнага палка. Неўзабаве, 1 студзе-

*Працяг на стар. 8*



АДГАЛОСКІ

**ЦІШЫНЯ**

У „Ніве" н-р 36 (1895) ад 6 верасня 1992 года быў надрукаваны артыкул Яўгена Міра новіча „Дзякую табе, Амерыка". Тым, хто яго не чытаў, хачу паведаміць, што рэдактар Міра новіч дзякуе Амерыцы за шматсерыйную „Дынастыю", але не таму, што яна такая добрая, а таму, што для тых, хто яе не аглядае, наступае тады хвіліна спакою, бо „сціхае ўся вуліца, знікаюць дзесьці разбуяненыя дзеці, хаваюцца старэйшыя жанчыны, якія патрапяць прастаяць некалькі гадзін, абмяркоўваючы нейкія важныя для іх справы, змаўкаюць тэлефоны, амаль поўнасцю спыняецца вулічны рух". Тады, піша аўтар, можна адчыніць акно ў пакоі, бо на вуліцы не клубіцца пыл, сесці ў мяккае крэсла, пачытаць нешта ці паслухаць музыку Шуберта.

Нарэшце ніхто не перашкаджае!

Здаецца мне, аднак, што рэдактар Міра новіч крыху паспяшаўся з гэтай падзякай. Добра таму, хто сядзіць у той час у хатнім зацішшы (пры ўмове, што ўся сям'я мае ідэнтычны погляд на „Дынастыю" або жыве ў немалой віле). Але барані Божа апынуцца тады на пустой вуліцы. Там жыццё замірае цалкам, не відаць не толькі прыватных самаходаў, але і паліцэйскіх. А што ўжо гаварыць пра паліцэйскія патрулі. Жывога паліцыянта са свечкай не ўбачыш!

Не дай Бог трапіць тады ў лапы бандытаў. Чалавек можа быць здадзены толькі на сябе.

Недзе вясною адна студэнтка вярталася з заняткаў. Падыйшла да свайго блёка а палове дзевятай вечара. З адчыненых вакон чуваць былі гукі „Дынасты". Перад самымі дзвярыма, што вялі ў яе пад'езд, нейкі маладзец прыставіў ёй нож да горла. Дзяўчына нават пісьнуць не магла. Пачала тыцкаць бандыту сваю студэнцкую сумачку, але той не сумачкі якраз прагнуў. Дзяўчына пахаладзела ад страху, калі лязо нажа дакранулася да яе скуры, а левая рука бандыта пачала сцягваць ёй джынсы.

Так ці інакш, кепска магло б гэта скончыцца для студэнткі, калі б не ляпнулі дзверы недзе на другім паверсе і не пачуліся рашучыя мужчынскія крокі. Бандыт перапужаўся і ўцёк.

Вывад: не заўсёды цішыня спрыяе добрым людзям.

**АДА ЧАЧУГА**

---

**АГІТАЦЫЯ З ДАПАМОГАЙ КАПІТАЛІСТАЎ**

Барскі пачаў перадвыбарную агітацыю цыклам фельетонаў „Беларускія капіталісты" — глядзі „Нівы" ад 12 ліпеня г.г. Цікава, ці перамажа Валодзю Цімашэвіча? Пераможа — не пераможа, а ваду з мазгоў людзям робіць! І так, быццам не ён сам выкладае думкі пра капіталізм і капіталістаў, а ўкладае іх у вусны то „прыблізна саракагадовага селяніна", то ў „жанчыны гадоў шасцідзесяці", то зноў „шасцідзесяцігадовы беларускі селянін" паясняе нам красамоўна істоту капіталізму. Што такое капіталізм кажуць нам беларусы з вёсак і мястэчак. З гэтай, быццам сацыялагічнай, анкеты вынікае, што, нам, беларусам, ніякага

Шасцідзесяцігодак кажа: „А чы твой (значыць А.Б. — М.К.) капіталіст, зарабіўшы на мне, будзе ўсё гэта рабіць? Ні халеры (адказвае апытваны — М.К.). Пакажы ты мне тыя шпіталі, школы, дамы культуры або дарогі, каторы збудавалі нашы капіталісты. А як жэ, я ўжэ чуў, то будут будаваць дарогі і калі схочэш па іх ездзіць, то мусіш заплаціць за кажды кіламетр, от як гэто выглядае".

Ой „выглядае, выглядае!" А выглядае на тое, што А. Барскі паставіў фальшывы тэзіс, што на Беласточчыне ёсць ужо капіталізм і што ёсць капіталісты. Капіталісты то можа і ёсць, але капіталізму — ані крышынку. Ёсць зачатак рыначнай гаспадаркі, ёсць свабода адкрываць прыватныя прадпрыемствы, але капіталу то зусім мала. Там ёсць капіталізм, дзе ёсць капітал. Капіталам адзіным у селяніна з'яўляецца зямля — значыць, што адзіныя капіталісты гэта сяляне Гайнаўшчыны і Бельшчыны!

Мала таго, што фальшывы тэзіс, то яшчэ фальшывае слова ў кантэксце сучаснай рэчаіснасці. Слова, ад якога вее пагрозай для нашых шасцідзесяцігодкаў, якія пра капіталізм ведаюць тое, што прачыталі ў кніжках або ведаюць ад бацькоў. Няма ў нас капіталізму, а не было і сацыялізму. Можна сказаць, што цяпер існуе безгалоўе, няма нічога ўстаткаванага, пачынаючы ад „малой канстытуцыі", а канчаючы на самаўрадах гмін ці вёсак. Найважнейшае, каб тое, што робіць чалавек мела сякі-такі сэнс, і каб паліцэйскі не заглядаў чалавеку пад чэрап; каб свабода не была толькі мёртвай літарай у Канстытуцыі; каб, калі чалавек будзе патрабаваць дапамогі, то не адвернуцца ад яго суседзі, царква ці дзяржава; каб чалавечы талент быў нашым супольным скарбам, а наваколле з лясамі, рэкамі, палеткамі найдаражэйшым з дарагіх; каб не было межаў і дур-

*Працяг на стар. 8*

# ЦУДАТВОРНЫЯ ІКОНЫ БОЖАЙ МАЦІ НА БЕЛАРУСІ

Найлепшай вонкавай праявай глыбокай пашаны беларускага народа да Найсвяцейшай Дзевы Марыі з'яўляюцца шматлікія цудатворныя іконы. Аб'яўляліся яны ў гарадах і ў самых невялікіх вёсках. Наша Нябесная Уладарка такім чынам адкрывае сваё сэрца для беларускага народа, асабліва ў цяжкія часы войнаў, хвароб і іншых няшчасцяў. Цудатворныя іконы былі водгукам на малітвы людзей, якія шукалі нябеснае мацярынскае апекі. Наша Нябесная Уладарка сваёй ласкай давала яе ўсяму беларускаму народу і паасобным людзям. Варта тады пералічыць цудатворныя іконы, якія былі шырока вядомыя на Беларусі і па-за яе межамі /тлустым друкам даецца названне іконы, а побач паясняецца месца, дзе яна знаходзілася або знаходзіцца цяпер/:

- **Балыкінская** ікона Божай Маці - вёска Мазалеўшчына каля Мсціслава,
- **Баркулабаўская** - да I сусветнай вайны была ў Буйніцкім Святадухаўскім манастыры, а пазней - у Старабыхаўскай царкве,
- **Барунская** - Барунскі манастыр на Ашмяншчыне,
- **Беластоцкая** - у Святадухаўскім саборы ў Беластоку,
- **Белацаркоўская** - у Белацаркоўскай Троіцкай прыхадской царкве на Магілёўшчыне,
- **Бельская** - у царкве Архангела Міхаіла ў Бельску-Падляшскім,
- **Будслаўская** - у прыхадской царкве ў Будславе,
- **Бялыніцкая** - у мужчынскім Мікалаеўскім манастыры ў Бялынічах каля Магілёва,
- **Вальнянская** - у Святатроіцкай царкве Менскай епархіі,
- **Васількаўская** - у капліцы ў Васількаве каля Беластока,
- **Васькаўская** - у вёсцы Малішковічы на Мазыршчыне,
- **Віленская** - спачатку знаходзілася ў Прачысценскім саборы, а пазней у Святатроіцкім манастыры ў Вільні,
- **Віленская Вострабрамская** - над Вострай Брамай у Вільні,
- **Віцебская** - копія Казанскай іконы БМ, якая знаходзіцца ў Віцебску,
- **Гавязнянская** - у мястэчку Гавязна,
- **Гарадзішчанская** - у прыхадской царкве ў Гарадзішчы каля Пінска,
- **Гарбацэвіцкая** - аб'явілася каля мястэчка Гарбацэвічы, пазней пераходвалася ў Рызапалажанскай царкве ў Менску,
- **Гаруціская** - перанесена з Гаруціскай царквы ў Старажынскую Петрапаўлаўскую царкву каля Менска,
- **Груздоўская** - у вёсцы Груздава на Віленшчыне,
- **Гудагайская** - перахоўваецца ў каталіцкім парафіяльным касцёле ў Гудагаі на Ашмяншчыне,
- **Дзвінская** - вывезена з Дзвінска ў ваколіцу Архангельска,
- **Дудзіцкая** - загінула, яе копія знаходзіцца ў Пакроўскай царкве ў мястэчку Дудзічы,
- **Жыровіцкая** - у Саборнай Успенскай царкве Жыровіцкага манастыра,
- **Забельская** - знаходзілася ў царкве ў Слуцку,
- **Заслаўская** - у царкве Раства Багародзіцы ў Заслаўі каля Менска,
- **Казімерская** - ва Успенскай царкве ў мястэчку Казімераўка на Меншчыне,
- **Каложская** - у Каложскай царкве ў Гродне, пазней ікону перанеслі ў Гродзенскі Барысаглебскі манастыр,
- **Каменская** - у Праабражэнскай царкве ў вёсцы Каменка Менскай епархіі,
- **Конкавіцкая** - з вёскі Конкавічы перанесена ў мясцовую царкву Раства Багародзіцы Менскай епархіі,
- **Кашубінская** - знаходзіцца ў прыхадской царкве Непарочнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Кашубінцах каля Скідаля,
- **Клецкая** - з Пакроўскай царквы перанесена ў Васкрасенскую царкву ў Клецку,
- **Кодэнская** - у мястэчку Кодэнь над Бугам,
- **Корнінская** - у прыхадской царкве Архангела Міхаіла ў Старым Корніне каля Гайнаўкі,
- **Корсунская-Эфеская** - перанесеная ў каталіцкі санктуарый у Чанстахове,
- **Краснастоцкая** - у каталіцкім касцёле ў Ружаным Стоку на Сакольшчыне,
- **Круціцкая** - у капліцы каля вёскі Круціца каля Менска,
- **Крывіцкая** - у каталіцкім касцёле ў Лідскіх Крывічах Жалудоцкага раёна,
- **Крыпненская** - у каталіцкім касцёле ў Крыпне на Беласточчыне,
- **Купяцкая** - знойдзена ў вёсцы Купяцічы на Піншчыне; вывезена ў Кіеў, а пасля апошняй вайны апынулася ў манастыры каля Мюнхена,
- **Літвянская** - у царкве Раства Багародзіцы ў вёсцы Літвяны Менскай епархіі,
- **Ляданская** - у Дабравешчанскім манастыры ў Лядансу Менскай епархіі,
- **Ляснянская** - у вёсцы Лясная каля Белай-Падляшскай,
- **Малакакарміліца** - ва Успенскай царкве, пабудаванай у полі названым Крэстагорскім каля Менска,
- **Мар'інагорская** - у царкве Успення Багародзіцы ў вёсцы Лядцы,
- **Менская** - у Петрапаўлаўскім саборы ў Менску,
- **Мясціцкая** - у царкве святой Параскевы Пятніцы ў вёсцы Мясцічы на Піншчыне,
- **Новасвержанская** - ва Успенскай царкве ў Новым Свержане каля Стоўпцаў,
- **Новатроцкая** - знаходзіцца ў царкве ў Троках,
- **Асавецкая** - у прыхадской царкве ў Осаве на Навагрудчыне,
- **Падлеская** - у Святадухаўскай царкве ў вёсцы Падлессе,
- **Пархімовіцкая** - у царкве Раства Багародзіцы ў пасёлку Пархімовічы,
- **Пружанская** - знаходзілася ў Пружанах,
- **Пустынская** - у Пустынскім манастыры каля Мсціслава,
- **Ракаўская** - ва Уздзвіжанскай царкве непадалёку мястэчка Ракава,
- **Рудзенская** - у мястэчку Рудня каля Віцебска, пазней перанесена ў жаночы Кіева-Пячэрскі манастыр,
- **Себежская** - у вёсцы Ліпкі на Смаленшчыне,
- **Смаленская-Адзігітрыя** - перахоўвалася ў саборных цэрквах Смаленска,
- **Смаленская-Уміленне** - перахоўвалася ва Успенскай царкве ў Смаленску,
- **Старчыцкая** - у царкве Раства Багародзіцы ў Старчыцах,
- **Супрасльская** - у Дабравешчанскай царкве Супрасльскага манастыра,
- **Свірская** - у Міхайлаўскай царкве ў Смаленску,
- **Тупічэўская** - у Тупічэўскім манастыры каля Мсціслава,
- **Усвятыйская** - у Спаскай царкве ў мястэчку Усвяты на Віцебшчыне,
- **Эйсманцкая** - у каталіцкім касцёле ў Вялікіх Эйсмантах каля Гродна,
- **Фалькавіцкая** - у мястэчку Фалькавічы каля Віцебска.

Апрача пералічаных ёсць яшчэ іконы Божай Маці напісаны на Беларусі /асабліва копіі/, якія пазней былі перавезены ў іншыя краіны, напрыклад, у Польшчу ці Літву, і там уславіліся яны шматлікімі цудамі.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**




### АЎКЦЫЁН Ў ЛОДЗІ

10 кастрычніка г.г. у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Лодзі /вул. Гданьская, 102/ адбудзецца кніжны аўкцыён н-р 2/1992. На ім будуць прадавацца, між іншым, такія выданні /паводле аўкцыённага каталога/:

Poz. 2 - Alma Mater Vilnensis /czasopismo akademickie wyd. w Wilnie/, Z. 8 z 1929. Cena wywoławcza 120 tys. zł.

Poz. 55 - Nowogródzki Dziennik Wojewódzki, R. 1934, Nry 1-30. C. w. 50 tys. zł.

Poz. 94 - Rocznik Ziem Wschodnich, R. 4 /1938/. C. w. 150 tys. zł.

Poz. 115 - Wilno /kwartalnik poświęcony sprawom miasta/, R. 1, nr 2 /czerwiec 1939/. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 236 - Kowalewska Z., Obrazki mińskie: 1850-1863, Wilno 1912. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 254 - Wrotnowski F., Historia powstania w 1831 roku na Wołyniu, Podolu, Ukrainie, Żmudzi i Litwie, T. 1-2, Lipsk 1875. C. w. 180 tys. zł.

Poz. 322 - Hedemann O., Dawne puszcze i wody, Wilno 1934. C. w. 90 tys. zł.

Poz. 329 - Jarocki F. P., Pisma rozmaite wierszem i prozą, T. 1-2, Warszawa 1830 /zawiera m. in. prace dotyczące Puszczy Białowieskiej/. C. w. 300 tys. zł.

Poz. 345 - Korniłowicz A., O życiu ś.p. Franciszka Karpińskiego, Wilno 1827. C. w. 100 tys. zł /Uwaga! Wydawnictwo współoprawione z: Kołaczkowski K., Biografia generała Ignacego Prądzyńskiego, Poznań 1851/.

Poz. 356 - Krzywoszewski S., Z przeżyć i wrażeń myśliwskich, W-wa 1927. C. w. 120 tys. zł.

Poz. 378 - Narbutt T., Dzieje starożytne narodu litewskiego, T. 3: Pamiątki i wypadki historyczne od wieku szóstego po wiek trzynasty, tudzież rzeczy odnoszące się do Prussyi, Łotwy, zakonów rycerskich, Wilno 1838. C. w. 240 tys. zł.

Poz. 432 - Stadnicki K., Synowie Gedymina wielko-władcy Litwy: Monwid - Narymunt - Jewnuta - Koriat, Lwów 1881. C. w. 150 tys. zł.

Poz. 456 - Zieliński S., Bitwy i potyczki 1863-1864: na podstawie materiałów drukowanych i rękopiśmiennych Muzeum Narodowego w Rapperswilu, Rapperswil 1913. C. w. 250 tys. zł.

Пісьмовыя заказы можна накіроўваць на адрас: Antykwariat Naukowy, ul. Piotrkowska 18, 91-415 Łódź. У іх неабходна падаць: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара і загаловак кніжкі /ці часопіса/, а таксама суму грошай, якую заказваючы быў бы згодны заплаціць за выдавецтва.

**ПЁТР БАЙКО**

## ДЭЛЕГАТЫ

### НА ПАМЕСНЫ САБОР ПОЛЬСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ.

У днях 18-23 кастрычніка 1992 года адбудзецца гістарычны, першы ад часу атрымання аўтакефаліі ў 1924 годзе, Памесны Сабор нашай Царквы. Ніжэй друкуем спісак дэлегатаў, якія будуць прадстаўляць вернікаў з тэрыторыі Беласточчыны.

**З БЕЛАСТОЦКА-ГДАНЬСКАЙ ЕПАРХІІ:**

**Беластоцкае благачыннe:**

**Святары:** а. а. Георгій Барэчка, Рыгор Місяюк, Ян Федарчук, Яраслаў Макаль, Мікалай Баравік.

**Свецкія:** Яўген Чыквін, Марк Масальскі, Славамір Назарук, Яўген Скаўронскі, Міхал Малафееў.

**Сакольскае благачыннe:**

**Святары:** а. а. Уладзімір Місяюк, Пётр Харытанюк, Аляксандр Клімюк, Іосіф Сіткевіч.

**Свецкія:** Леанід Петрашкевіч, Міраслаў Суровец, Вера Парфянюк, Ян Макаль.

**Гарадоцкае благачыннe:**

**Святары:** а. а. Ян Ярашук, Мікалай Астапчук, Яўген Міхальчук.

**Свецкія:** Зінаіда Кандрусік, Анатоль Ваўранюк, Валянціна Паплаўская.

**Дабравешчанскі мужчынскі манастыр:** а. а. Мірон /Хадакоўскі/, Якуб /Касцючук/, Рыгор /Харкевіч/.

**З ВАРШАЎСКА-БЕЛЬСКАЙ ЕПАРХІІ:**

**Гайнаўскае благачыннe:**

**Святары:** а. а. Антон Дзевятоўскі, Сяргей Стальбоўскі, Мікалай Келбашэўскі, Міхал Негярэвіч, Леанід Шэшка.

Свецкія: Васіль Астапковіч, Міхал Байко, Уладзімір Паскробка, Сяргей Нічыпарук, Уладзімір Петручук.

Бельскападляшскае благачынне:

Святары: а. а. Ляонцій Тафілюк, Георгій Такарэўскі, Рыгор Сасна, Фёдар Верамяюк.

Свецкія: Лявон Філіманюк, Ірына Гадун, Ірына Артысевіч, Мікалай Кадлубоўскі.

Сямяціцкае благачынне:

Святары: а. а. Аляксей Несцярук, Уладзімір Здунюк, Яўген Заброцкі, Андрэй Якімюк.

Свецкія: Леанід Вішанка, Аляксандр Рожук, Сяргей Шчыгал, Пётр Несцярук.

Нараўскае благачынне:

Святары: а. а. Васіль Рошчанка, Аляксандр Высоцкі, Мікалай Маркевіч.

Свецкія: Пётр Фірсюк, Ян Пляскові, Міхал Максімюк.

**Сабраў С. Н.**

## „КАНЁК ГАРБУНЁК"

13 верасня ў Беластоцкім тэатры лялек выступілі акторы Гарадзенскага лялечнага тэатра з пастаноўкай „Канька Гарбунька" — п'есы паводле народнай казкі, якая бытуе як у расейскім, гэтак і ў беларускім фальклоры. Рэжысёр пастаноўкі — Мікалай Андрэеў. У пастаноўцы выступілі: Галіна Закрэўская, Віктар Шалкевіч, Юрка Буракоў і Іван Дабрук. Спектакль прайшоў надзвычай удала — цяжка сказаць, каму больш ён падыйшоў даспадобы: малым, якіх на беларускамоўным відовішчы было надзіва многа, ці іхнім бацькам.

14 верасня гродзенцы выступалі з „Каньком Гарбуньком" у Бельску.

*(ЯМ)*

# АМЕРЫКАНЕЦ У НАРВЕ

Школа ў Нарве, хоць вучыцца ў ёй звыш чатырохсот вучняў, працуе на адну змену. "Наша школа, - сказала дырэктар Аліна Асташэўская, - гэта не тое, што тыя гарадскія камбінаты. У нас кожны клас мае сваю залу. Нават куратар асветы, калі быў у Нарве на візітацыі, сказаў, што гэтая школа - двудзесты першы век".

У школе працуе агулам 31 настаўнікаў - разам з настаўнікамі рэлігіі. Праваслаўнай /яна тут дамінуе/ навучае матушка, а каталіцкай - святар.

У школе камп'ютэрная зала - стаіць там 11 камп'ютэраў. Увесці элементы інфарматыкі ў старэйшыя класы ў школе думаюць ад наступнага навучальнага года. Пакуль вядуцца заняткі ў камп'ютэрных гуртках. Апаратура выкарыстоўваецца таксама як дапаможнік на некаторых уроках. Гуляюць на ёй вучні, якія даязджаюць у школу з-па-за Нарвы.

Ад двух з паловай гадоў нараўская школа з'яўляецца самаўрадавай. "Калі пытаюць мяне, - сказала дырэктар, - ці варта школам пераходзіць пад гмінныя самаўрады, адказваю, што калі ў гміне ёсць чалавек, які разумее праблемы асветы і які адчувае сябе гаспадаром гміны, дык варта. Кураторыя - гэта нешта такое, што далёка, а гміна заўсёды пад бокам. У сувязі з гэтым не адчулі мы шмат якіх бюджэтных абмежаванняў, накінутых куратарыяй. Дапамагала тут гміна, якая праводзіла інвестыцыі, не спадзеючыся на датацыю, якая мела б вярнуць кошты рамонтаў, ці чаго там яшчэ. Да Гміннай рады можна мець жаль толькі за тое, што часамі прымае яна рашэнні, якія не вельмі ў згодзе з асветнымі законамі. Але сітуацыя такая зразумелая, калі ў Радзе няма настаўніка, які за такімі справамі сачыў бы".

*- Ну, то трэба старацца, каб чалавек такі ў Гміннай радзе знайшоўся.*

- А думаеце, што не стараліся. У час апошніх самаўрадавых выбараў сярод кандыдатаў быў і настаўнік, але яго канкурэнтам быў прадпрымальнік, чалавек наогул вельмі багаты. А якая ў сённяшнім грамадстве пазіцыя настаўніка?

Напэўна такая, што ўсе бацькі жадаюць, каб іхнія дзеці атрымалі салідную адукацыю. У нараўскай пачатковай школе дзеці ў класах III-VIII вывучаюць англійскую мову. У трэцім і чацвёртым класе - па адной гадзіне ў тыдзень, а ў іншых - па дзве. Навучае англійскай мовы двух настаўнікаў - адзін з Беластока, а другі з... Фларыды. Завецца ён Натан Оўвэргольт /Natan Overholt/, яму 26 гадоў. Прыехаў ён з ЗША на Беласточчыну, як сам гаворыць, таму, што ягоны бацька пасля другой сусветнай вайны падарожнічаў па Польшчы і працаваў тут. Ён сам хоча get new expefience /здабыць новую дасведчанасць/. Дагэтуль працаваў ён наогул рукамі, а не галавою і таму спачатку прыйшлося яму ўдзельнічаць ва ўсіх уроках свайго беластоцкага калегі, каб пабачыць, як павінен выглядаць урок англійскай мовы.



*На ўроку англійскай мовы ў класе VII а.*

На свае ўрокі Натан прыводзіць сяброўку, якая дапамагае яму, калі ўзнікаюць моўныя бар'еры. Са школай дамовіўся на адзін год працы. Ці застанецца вучыць і надалей? Пакуль сам не ведае.

Эх, Амерыка. Не толькі нашы туды едуць.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

# БЕЛАРУСКІ КОНКУРС ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ?

Пачаўся новы навучальны год. Якім ён будзе для беларускай мовы? Калі ўжо ў "Ніве" з'явілася асветная старонка, варта было б адпаведна яе выкарыстаць. Так склалася, што некалькі гадоў, працуючы ў Галоўным праўленні Беларускага грамдска-культурнага таварыства, займаўся я культурна-асветнымі справамі. Многае пры гэтым пабачыў і перажыў. У гэтым годзе змясціў я на старонках "Нівы" /у "Адгалосках"/ некаторыя выказванні на гэту тэму. Хацелася мне такім чынам выклікаць сур'ёзную дыскусію пра конкурсы на беларускай мове. На жаль, дыскусіі такой пакуль не атрымалася. Большасць зацікаўленых чамусьці маўчыць. Толькі спадарыня Русачык /гл. "Ніва", н-р 12, 22 сакавіка/ і спадарыня Ефімюк /гл. "Ніва", н-р 31, 2 жніўня/ спрабавалі даказаць, што Ян Мордань - гэта ніякі эксперт у гэтых справах. Што датычыць выказванняў сп. Русачык, я на іх ужо адказаў /гл. "Ніва", н-р 23, 7 чэрвеня/. Спадарыня Ефімюк паўтарае выказванні сп. Русачык і да таго замоўчвае некаторыя істотныя факты. У сувязі з гэтым трэба паясніць, што вучаніца школы ў Храбалах Марта Алексяюк падчас конкурсу ў 1990 годзе была вучаніцай IV класа, дзе беларускую мову навучала Людміла Паўлік, а не сп. Ефімюк. Магчыма таму камісія ў Бельску-Падляшскім не заквапіфікавала Марту Алексяюк у фінал /у фінале ж, аказалася яна лепшай ад заквапіфікаваных/. Як відаць, ацэньваючы дэкламацыі, настаўнікі кіруюцца не толькі майстэрствам. Цяпер ясна чаму Ян Мордань перашкаджаў настаўнікам у працы. Да іншых выказванняў сп. Ефімюк не буду адносіцца, бо няма сэнсу справу беларускіх конкурсаў зводзіць да персанальнай калатнечы.

Сёння хачу шырэй выказацца пра культурна-асветныя справы ў нашым асяроддзі. Беларускае школьніцтва на Беласточчыне апынулася ў трагічным стане. Беларуская мова трактуецца як дадатковы, а нават непатрэбны прадмет. Ніхто з беларускіх дзеячоў і настаўнікаў не стараецца нешта тут змяніць. Мала таго, амаль усе настаўнікі-беларусы /усіх прадметаў/ на сваёй роднай Беласточчыне дзяцей і моладзь выхоўваюць на чужынцаў. Патрэбныя доказы? Зайдзіце ў любую школу, паглядзіце, паслухайце і падумайце. Ненармальнае ў нас стала нармальным. Вінаватых такой сітуацыі няма сэнсу шукаць. Бяда ёсць сіратой. А як вучаць роднага настаўнікі беларускай мовы? Кожны з нас, хто вучыўся ў школе ведае дасканала і ўсе маўчаць.

Падчас беларускіх конкурсаў для школьнікаў пераканаўся я, што службовай мовай настаўнікаў беларускай мовы ў кантактах са сваімі вучнямі з'яўляецца польская /і гэта не толькі ў гарадах/. А колькі настаўнікаў-беларусаў чытае беларускую прэсу і кніжкі? Адзінкі. Калі хтосьці не згаджаецца, давайце зробім беларускі чытальніцкі конкурс для настаўнікаў. Пераканаемся.

Цяжка пра ўсё гэта пісаць, але ўсім нам трэба абудзіць свае сумленне. Буду спадзявацца, што гэтае выказванне выкліча на гэтай старонцы разумную дыскусію.

**ЯН МОРДАНЬ**

### З КАРТАЙ ПРАЗ НАРВЯНСКІЯ ЗАВІЛІНЫ

Турысту, які пападзе ў Нарвянскі ландшафтны парк, за праваднікa можа быць нядаўна выдадзеная прыродазнаўча-турыстычная карта парку (маштаб 1 : 40000), выкананая ў кафедры картаграфіі Варшаўскага універсітэта, а апрацавана на падставе авіяцыйных здымкаў, зробленых у 1987 г. у рамках эксперымента Тэлегеа-Нараў, і на аснове тапаграфічнай карты ў маштабе 1 : 25000. Улічвае яна гідраграфію тэрыторыі, расліннае покрыва (падзеленае на лесна-хмызняковыя, балотныя і перыядычна-балотныя экасістэмы), формы выкарыстоўвання зямлі, тыпы рэльефа мясцовасці, жывёльны свет, а таксама змяшчае антрапагенічныя элементы і турыстычныя інфармацыі.

У апісальнай частцы турыст знойдзе інфармацыю аб парку, асноўныя дадзеныя аб напаверхных водах, тэмпературы і ападках, флоры і фауне, а таксама аб 21 больш важнай мясцовасці, раскінутых у гэтым раёне.

Карта выдадзена праўленнем Нарвянскага нацыянальнага парку тыражом 11500 экз. Фармат, пасля яе разлажэння, 63,5 х 43,5 см. Цана прыступная — каля 10 тыс. злотых і залежыць ад месца продажу.

**ПЁТР БАЙКО**

ДА 35-ГОДДЗЯ ЛІТАРАТУРНАГА ДЭБЮТУ ЯНА ЧЫКВІНА

# „ВЯСНА, АСЕННЯЯ ВЯСНА–ТРЫВАЙ!"

Дацэнт Ян Чыквін не мусіць сёння саромецца свайго першага лірычнага верша „Сад". Верш, быццам той ветрык у садзе, лёгкі, дынамічны, празрысты (хаця з багатай метафорыкай), не засмечаны лішнімі словамі, якіх нямала сустрэнеш у іншага, здавалася б, дасведчанага паэта. Імкненне да перфекцыйнасці вызначала ўжо ў самым пачатку яго літаратурную творчасць.

„Ціха ў садзе вецер йграў,
Лёгка струны шамятаў,
Песню ціхую шумеў
Ціха-ціха, як умеў.
Лёгка кветкі калыхаў,
Пчолкі да сну спаці клаў,
Міла песціў лісці дрэў
Ціха-ціха, як умеў.
Потым пырхнуў, уздрыгнуў,
Усё ў садзе калыхнуў.
Ізноў сеў, пачаў свой спеў
Ціха-ціха, як умеў".

Цяжка паверыць сёння, што верш гэты быў напісаны роўна 35 гадоў таму назад, калі аўтар яго быў яшчэ хлапчуком. Пад псеўданімам Янка Дубіцкі ён быў надрукаваны ў 35/79/ нумары „Нівы" ад 1 верасня 1957 года.

На першы з'езд Беларускага літаратурнага аб'яднання, які арганізавала 8 чэрвеня 1958 года рэдакцыя „Нівы", Ян Чыквін прыехаў будучы яшчэ ліцэістам. І ўжо на стала звязаўся з літаб'яднаннем, з „Нівай", галоўны рэдактар якой Георгі Валкавыцкі меў нязвыклы дар вылаўлівання маладых талентаў з беларускага літаратурнага палетка і апекавання імі.

Першы зборнік паэтычных твораў Яна Чыквіна „Іду" ўбачыў свет толькі ў 1969 годзе. Але быў гэта добры пачатак. Да 1992 года выйшла іх з друку сем („Іду", Беласток 1969; „Святая студня", Беласток 1970; „Неспакой", Беласток 1977; „Na progu świata", Warszawa 1983; „Splot słoneczny", Olsztyn 1988; „Светлы міг", Мінск 1989; „Кругавая чара", Беласток 1992). Апошні збор паэзіі „Кругавая чара" паявіўся зусім нядаўна, навесну гэтага года.



*Злева: Тэрэса Занеўская, Ян Чыквін, Аляксандр Усакевіч і Януш Нічыпаровіч.*

У тым, што творчасць „белавежцаў" за гэтыя гады стала заўважальнай з'явай не толькі на Беласточчыне, але і далёка за яе межамі, бясспрэчная заслуга і Яна Чыквіна. Яго паэзія — агульначалавечая. Яго думка — адточаная, прэцызійная. Яго сумненні — гэта сумненні праўдзівага творцы. Яго патрабавальнасць — гэта патрабавальнасць перш за ўсё ў адносінах да сябе.

Ужо тры гады Ян Чыквін, дацэнт Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, з'яўляецца старшынёю Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Перыяд гэты характэрны нябачанай раней эдытарскай дынамікай. Менавіта Ян Чыквін з'яўляецца ініцыятарам і рэдактарам Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", у рамках якой ужо выйшла сем кніг ( зборнікі паэзіі Віктара Шведа, Надзеі Артымовіч, Зосі Сачко, Уладзіміра Гайдука, Ларысы і Юркі Геніюшаў, „Кругавая чара"Яна Чыквіна ды нататкі рэдактара Георгія Валкавыцкага) і вось-вось выйдзе восьмая, збор нарысаў Тэрэсы Занеўскай пра творчасць „белавежцаў".

14 верасня 1992 года ў сувязі з 35-годдзем літаратурнага дэбюту Яна Чыквіна адбылася сустрэча рэдакцыі „Нівы" з паэтам - „белавежцам". На гэты раз — у сядзібе Філіі Варшаўскага універсітэта. Новы галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Мірановіч ад імя калектыву „Нівы" уручыў юбіляру віншавальную грамату, зычачы яму далейшых поспехаў у літаратурнай творчасці.

Шмат цёплых слоў сказалі Яну



*Юбіляр з „ніўцамі".*

Чыквіну запрошаныя госці: віцэ-ваявода Аляксандр Усакевіч, дырэктар Аддзела грамадскіх спраў Ваяводскай управы Эўгеніюш Біль-Ярузельскі, прэзас Беластоцкага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў Януш Нічыпаровіч, прэзас Агульнапольскага гуртка імя Элізы Ажэшка Здзіслаў Цыпэльт і іншыя.

Ну, і кветкі, дыпломы, сувеніры. Так як заўсёды пры такіх нагодах, якія некаторыя лічаць сумнымі.

Хачу пацешыць цябе, Яне! Калі перыяд пасля 35-гадовай дзейнасці ў іншага паэта і можна было б назваць восеннню яго творчасці, дык ніяк не падыходзіць гэта да Чыквінавай паэзіі. У ёй усё яшчэ трывае вясна.

„Вясна, асенняя вясна — трывай!"

Пэўна, Яне, калі ты пісаў гэтыя словы ў адным з апошніх сваіх вершаў, дык думаў пра каханне. А я думаю пра тваю паэзію.

АДА ЧАЧУГА

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**09-12-1988 г.**

Няма ў жывых Яўгеніі Янішчыц /"ЛіМ" ад 2-га/. Вярцінскі, будучы ў "Ніве", гаварыў, што яна выскачыла з акна на восьмым паверсе... І што моцна паглыбілася была ў яе дэпрэсія? Псіхічная хвароба?.. "... трагічная птушка трагічнага краю..." /Н. Мацяш/.

**13-12-1988 г.**

Педагагічная рада тарашкевічаўскага ліцэя ўхваліла нядаўна, што "Białoruś, Białoruś" будзе абавязковаю вучням выпускных класаў.

Ад Пяткевіча: гродзенскія ўлады забаяліся запрасіць групу "белавежцаў", нечакана адклаўшы справу з лістапада на прадвесне /напалохаліся мінскіх Дзядоў?/.

Доктар Гаеўскі з Сахачэва даслаў камплект фатаграфій з адкрыцця помніка Гаруну. З гэтым палякам пазнаёміўся я ў час тае езуіцкай сесіі ў Лодзі. Ад яго атрымаў, таксама, "Przesłanie uczestników rekolekcji ekumenicznych", датаванае 2 кастрычнікам у мясцовасці Лясная-Падляшская. Платанічная падтрымка нацыянальным меншасцям.

Ужо ёсць афіцыйны дазвол на легальнае ўтварэнне БАСа - Беларускага аб'яднання студэнтаў, другой пасля БГКТ нашай арганізацыі. Гэта, усё-такі, сенсацыя! - Трэба ім, перш за ўсё, моцнай матэрыяльнай базы.

За апошнія дні - канчаецца год - давялося навысылаць мноства пісьмаў. Цяпер гэта адбірае ў мяне нямала энергіі.

**14-12-1988 г.**

Эканамічнае становішча цяперашняе Польшчы можна назваць беларускім гаспадарчым варыянтам. Культура ў такіх умовах цвісці не будзе.

Немагчыма пісьменніку нармальна жыць, па-людску, нават штогод выдаючы кніжку /прынамсі перавыданне/. Мус чапляцца за нейкія пасады, што перашкаджае, адымае час і сілы дзеля пісьменства. Каб пісаць, трэба ж шмат і чытаць яшчэ /а з гэтым і ў мяне бяда, хоць, здавалася б, і не павінна.../.

Для забеспячэння акуратнага быту займаюся, вось, фінансавымі камбінацыямі. Езджу ва ўсякія Амерыкі, прадаю туды сваю творчасць і веды, і кніжкі /за сто экз. "Białorusi, Białorusi" атрымліваю тысячу долараў, якія раўназначныя ў нас тром мільёнам злотых; збываючы тую ж сотню ў Беластоку - дастаў бы ўсяго смешныя дзевяць тысяч!/. Наладзіўшы сабе здабычу капіталістычнай валюты выратоўваю такім чынам сваё прылюднае існаванне ў сістэме т. зв. рэальнага сацыялізму. А ўдадатак у стане я падкінуць сотнюдругую дзіка дарагіх тут долараў на ўсякія нацыянальныя нашы акцы. Чорт адзін ведае, што гэта ўжо робіцца ў славянскім безгалоўі! СССР выпаў з сусветнага прагрэсу, а разам з ім і ягоныя сатэліты, уся гэтая "Іст Іроп".

**16-12-1988 г.**

/.../ Перадапошні выклад мой на Беларускім народным універсітэце /яшчэ 20.I.89/. Быў я ў нядобрай форме, выступіў нашмат ніжэй сваіх магчымасцяў. Але ёсць і плюс: публіка мела нагоду звярнуць увагу на некалькі недакладнасцяў з майго боку /Г. Вапа, Г. Мірановіч/. Гэта добра будуе яе настрой.

З мяне марны гісторык, марны і палітык. Напачатак акцыі я магу быць - z braku laku. Але на далей трэба спецыялістаў. Дзякуй Богу, яны з'яўляюцца. Маладыя! Мірановічы, Латышонак. Дойдзе да іх Вапа? Са старых - Барскі, Гайдук, Туронак; але толькі ў Юркі менавіта ёсць гатоўлівасць успамагаць маладабеларусаў; неэгаістычнасць старэчаў.

*/Працяг будзе/*

Тлумачэнні:

*- Яўгенія Янішчыц - выдатная беларуская паэтэса, аўтарка м. ін. кніг "Снежныя грамніцы", "Дзень вечаровы", "Пара любові і жалю"; трагічна памерла на саракавым годзе жыцця;*

*- доктар Гаеўскі - Збігнеў Гаеўскі, доктар стаматалогіі, польскі дзеяч каталіцкай арыентацыі, адзін з тых рэдкіх сяброў беларусаў і Беларусі;*

*- Іст Іроп - памылковае ў нас англельскае вымаўленне назвы Усходняй Еўропы /трэба: Іст Юэрэп/.*

# АЧЫСЦІЦЬ БЕЛЬСК

27-тысячны Бельск-Падляшскі мае далінна-раўніннае размяшчэнне. Такому месцазнаходжанню характэрны слабы абмен паветра ў прыземных слаях атмасферы. У акрэсленых умовах надвор'я творацца мешаніны дыму і ўдушлівых газаў. Часта неадпаведная вышыня і дрэннае размяшчэнне комінаў, недахоп пылаўлоўнага і фільтравога абсталявання, а таксама сродкі камунікацыі садзейнічаюць значнаму забруджванню паветра - з прычыны эмісіі вокісу і двухвокісу вугалю, спалучэнняў свінцу і серы. Асабліва восенню і на прадвесні, калі паўсюдна спальваецца лісце, траву, салому, пластмасавыя астаткі ды іншае смецце. Парадкаванне сядзібаў адбываецца часта за кошт здароўя і якасці жыцця ўсіх жыхароў - членаў адной мясцовай супольнасці.

Праблемы аховы асяроддзя ў адміністрацыйных межах горада Бельска-Падляшскага набываюць вялікае значэнне з увагі і на той факт, што горад ляжыць у зоне "Зялёных лёгкіх Польшчы". Тут, хаця натуральнае асяроддзе яшчэ параўнаўча ў добрым стане, таксама паддаецца яно адмоўным антрапагенічным пераменам і дэградацыі, а між іншым, пастаяннаму пагоршванню якасці паверхных і падзямельных водаў, некарысным зменам чысціні паветра, выкліканым, галоўным чынам, пераплывам нечыстот з іншых, індустрыялізаваных абшараў краіны і замежжа.

Камунальныя і заводскія кацельні на працягу года эмітуюць каля 100 тон пылу і 600 тон шкодных газаў, што раўназначнае эмісіі 900 тон двухвокісу серы /$SO_2$/. Актуальная канцэнтрацыя гэтага газу над паверхняй грунту дае вынік 2,35 міліграма на адзін кубічны метр - дапушчальная канцэнтрацыя ў чатыры разы меншая.

На 140 крыніц цяпла ў горадзе толькі 6 прыстасаваныя для затрымкі пылу /маюць цыклонавыя пылаўлоўнікі/. Ніводная з іх не распараджаецца апаратам для ўлову газавых забруджанняў. Вялікі лік нізкіх эмітэраў і дрэнная якасць апалу выклікаюць значнае згушчэнне пылу і сажы.

Усё большае запатрабаванне горада на цяпло - з аднаго боку і неабходнасць абмяжаваць прамысловае і камунальнае забруджванне паветра - з другога, канчаткова вырашылі аб патрэбе пабудовы гарадской цеплацэнтралі, магутнасцю ў 60 гігакалорый у суткі. Будаваць цеплацэнтраль на вуліцы Раяновай пачалі ўжо ў 1987 годзе. Аднак недахоп фінансавых сродкаў, як у мінулым, так і сёння, уплывае на тое, што рэалізацыя інвестыцыі замаруджваецца.

У чэрвені гэтага года Гарадская рада прыняла пастанову ў справе мадэрнізацыі і развіцця бельскай цеплацэнтралі паводле канцэпцыі, апрацаванай у рамках "Master Plan" замежным прадпрыемствам "Гыдрахэм" з Варшавы. На аснове аналізу метадаў спальвання вугалю, а таксама эканамічных калькуляцыяў, з чатырох рэкамендаваных варыянтаў радныя выбралі той, які прадбачвае прымяненне ў цеплацэнтралі флуідальных катлоў і дазваляе на абмежаваны /з-за сціпласці сродкаў/ абсяг мадэрнізацыі. Тыповыя



каласніковыя рашоткі будуць заменены флуідальнымі, якія спальваюць такія адходы як серу і пыл у 92 працэнтах. Элімінацыя шкодных хімічных рэчываў рэзка палепшыць стан паветра ў горадзе.

Дзеля рэалізацыі гэтай, сёння самай вялікай у Бельску-Падляшскім інвестыцыі, прадугледжана на 1992 год 6 мільярдаў злотых /увесь бюджэт горада - 38 мільярдаў/. Гарадская ўправа робіць таксама намаганні, каб атрымаць крэдыты ў розных банках, якія фінансуюць ахову асяроддзя.

Другой важнай інвестыцыяй у горадзе з'яўляецца водаправодная станцыя на вуліцы Бранскай. Яна, аналагічна да цеплацэнтралі, на першапачатковым этапе рэалізацыі. Пасля двухгадовага перапынку ў сёлетнім бюджэце прадбачваецца на гэтую пабудову 2,5 мільярда злотых. Управа горада прыняла нядаўна пастанову аб закупе камплекта кантэйнераў здольных прадукаваць 120 кубічных метраў вады ў гадзіну. Гэтая, першая такога тыпу ўстаноўка будзе своеасаблівай ва ўсім паўночна-ўсходнім рэгіёне Польшчы.

Дагэтуль насельніцтва горада забяспечвалася вадой са станцыі на вуліцы Ягелонскай, якая карыстаецца геалагічнымі адкладамі пасляледавіковага перыяду. Хімічныя даследаванні вады, праведзеныя ў 1991 годзе, выявілі ў ёй значную колькасць жалеза, часта большую за прынятыя ў краіне нормы. Працэс паляпшэння якасці пітной вады таксама не праходзіць згодна з нормамі і не забяспечвае поўнасцю патрэб карыстальнікаў. Бар'ерам з'яўляецца тут малая прадукцыйнасць станцыі паляпшання вады, што выклікае шматлікія аварыі. Я - як жыхар Бельска, зайздрошчу жыхарам Парыжа, якія п'юць крыштальнай чысціні ваду з водаправода, працягнутага з Альпаў. Зайздрошчу я таксама жыхарам Нью-Йорка, якія п'юць ваду аж з Кардыльераў.

Калі справа ідзе пра сцёкавую гаспадарку, трэба сказаць, што гэтая праблема часткова ўжо вырашана. У палове васьмідзесятых гадоў была здадзена ў карыстанне ачышчальня механічна-біялагічнага тыпу. Яе гідраўлічная нагрузка хістаецца ад 15 да 30 працэнтаў. Дрэнны стан выкарыстання магчымасцяў ачышчальні выкліканы, галоўным чынам, адсутнасцю ў пэўных кварталах горада санітарнай каналізацыі. Дзеля паляпшэння сцёкавай гаспадаркі неабходная паслядоўная разбудова каналізацыі, а яна звязана з заможнасцю гарадской касы.

Летам мінулага года пачаліся працы пры ачышчэнні рэчышча Любкі. Выканаными земельныя работы ды ўмацаванні берагоў прычыніліся да паляпшэння эстэтычнага выгляду парку, які побач з гістарычнай Лысай гарой. Паветра над рэчкай сёння чыстае. Самы вялікі ўплыў на чысціню вады ў Любцы мела ліквідацыя прадпрыемства апрацоўкі лёну /рашарні/.

Апрача гэтых большых інвестыцый, вядуцца рэгулярныя працы над утрыманнем і доглядам гарадской зелені.

**ЮРКА БАЕНА**




*Працяг са стар. 4*

ных абмежаванняў; каб наперадзе быў *розум*. Адным словам, я хачу сказаць, што жыццё — гэта вельмі складаная справа і што кожны чалавечы лёс будуе наогул сам чалавек.

А перадвыбарчую агітацыю можна весці, але ці якраз цяпер, карыстаючыся мяжой у „Ніве"?

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

*Сопат 1.09.92г.*

---

**ЗА КІМ Я СТАЮ?**

Такое пытанне ставіць мне Васіль Петручук („Ніва" н-р 36). Адказваю: цяпер маем свабоду і магу гаварыць і пісаць усё, так як гэта зрабіў я ў гутарцы з рэдактарам Ю. Ляшчынскім і якая так не спадабалася спадару Петручуку.

Мая вуліца, якая калісьці называлася Выкруты, дзе ад вякоў стаіць царква і школа, цяпер называецца Арміі Чырвонай. Што ж гэта армія мае супольнага з беларусамі?

Паважаны сп. Петручук, я стаю за беларускасць нашай зямлі, за сваю родную мову. Вы, як чалавек мінулай эпохі, з іроніяй адносіліся да нашых духоўных каштоўнасцяў, асабліва да Бога і царквы. А цяпер, калі бароніце савецкую армію, неяк прадаўжаеце свае сувязі з тым, што нам зусім чужое.

Ад дваццаці гадоў я прапагаваў у сваёй ваколіцы „Ніву". Калісьці, як пісьманосец, насіў я каля 200 экземпляраў нашага тыднёвіка. А Вы што, робіце з мяне ворага беларускасці, бо не захапляюся савецкай арміяй?

Герман Шыманюк, сапраўды мой сваяк, быў верным сынам нашага народу. Пра яго напісалі нават у Беларускай энцыклапедыі. Калі ідзе пра Пілсудскага: мне ён абыякавы, але лічу яго больш сімпатычным за Леніна, бо не прынёс ён столькі крыўды свайму народу, як гэты апошні.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ЯК ЧЫТАЮЦЬ „НІВУ" Ў ОЛЬШТЫНЕ

У верасні я пацікавіўся, як чытаюць „Ніву" ў Ольштыне і дзе можна яе купіць. У „Руху" на вуліцы Жалезнай, куды я неспадзявана зайшоў, мяне сардэчна сустрэлі Вальдэмар Звалінскі і Рышард Кавальскі, кіраўнік.

Я прадставіўся, што з'яўляюся карэспандэнтам „Нівы", і яны ветліва запрасілі мяне прысесці. Спадар Вальдэмар выйшаў у другі пакой і прынёс спісак, у якім было адзначана, дзе можна купіць „Ніву" ў Ольштыне.

Даведаўся я, што на вуліцы Мужынаўскага ёсць сталы падпісчык, і я вырашыў як мага хутчэй сустрэцца з ім, каб даведацца, хто ён. Напэўна чытачам „Нівы" гэта будзе цікава.

„Ніву" ў Ольштыне можна купіць на Пляцы Канстытуцыі, у кіёску на вул. Пана Тадэўша насупраць аптэкі, каля „Дуката" на вуліцы Пілсудскага і на аўтобусным вакзале.

Паглядзеў я на тую „Ніву" ў кіёсках. Занепакоіла мяне, што ляжыць яна не на відным месцы, разам з польскімі газетамі, а далей, на паліцах. А каб ляжала бліжэй, дык хутчэй бы нехта купіў.

Найбольш за шклом відаць парнаграфіі. Усё секс ды секс. Калі ўжо гэта раўнапраўе?!

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# БАЛАХОВІЧ

*Працяг са стар. 4*

ня 1919 года, літоўскі ўрад уцёк з Вільні перад бальшавікамі, так як месяц раней Рада БНР з Мінска. Урад БНР і міністр беларускіх спраў пры літоўскім урадзе пераехалі ў Гродна. Сюды перанёсся і I Беларускі пяхотны полк, апрача якога былі яшчэ сфармаваныя Асобны батальён Гродзенскай камендатуры і Беларускі конны эскадрон. Усе тыя атрады былі раззброеныя палякамі пасля іхняга прыходу ў Гродна. Усё-такі існаваў надалей беларускі ўрад Антона Луцкевіча, а ў чэрвені 1919 года ўзнікла Беларуская вайсковая арганізацыя. 3 кастрычніка, з дазволу Пілсудскага, пачалося фармаванне беларускага войска з палкоўнікам Канапацкім на чале. У Менску дзейнічала Беларуская вайсковая камісія, а ў Слоніме фармавалiся два пяхотныя батальёны. Невялічкая была тая армія, дык няма дзіва, што беларускі ўрад разглядаўся за папаўненнем.

Палкоўнік Езавітаў, які праз нейкі час камандаваў беларускім палком у Гродне, назначаны быў шэфам Беларускай вайскова-дыпламатычнай місіі ў Латвіі і Эстоніі. У лістападзе ўстанавіў ён кантакт са Станіславам Булак-Балаховічам. Сустрэча адбылася на канферэнцыі Балтыйскіх краін, Украіны і Беларусі ў Тарту. Балаховіч заявіў, што ён беларус і што ідэя барацьбы за незалежную Беларусь, яму больш блізкая, чым авантуры белых генералаў. 14 лістапада Балаховіч склаў на рукі Езавітава дэкларацыю беларускага грамадзянства з просьбай прыняць яго на беларускую службу. Пераход у беларускае войска балахоўцы прынялі выбухам энтузіязму. Беларусы складалі палову афіцэраў і тры чвэрці жаўнераў палка, названага цяпер Асобным атрадам БНР. Жаўнеры зрывалі з шапак юдзенічаўскія значкі і замянялі іх пагонямі, а сіня-бел-чырвоныя расейскія сцягі - бел-чырвона-белымі. Пара была дадому, пытанне стала - кудою.

Балаховіч і Езавітаў планавалі спачатку прабівацца на Полацк, каб адваяваць у бальшавікоў нейкую тэрыторыю па-за польскай акупацыяй. Хутка паказалася гэта немагчымым, бо Эстонія і Латвія прыступілі да мірных перамоваў з Савецкай Расіяй. Зрэшты, і так самастойная атака 2-тысячнага атрада супроць Чырвонай арміі была толькі самагубнай мрояй. Заставалася толькі далучыцца да беларускага войска, якое стваралася пад Польшчай. Езавітаў звярнуўся да польскага галоўнага камандавання з просьбай адвесці Асобнаму атраду БНР участак польска-бальшавіцкага фронту на поўначы. На пачатку сакавіка атрад Балаховіча з'явіўся ў акупаваным палякамі Дзвінску, скуль быў накіраваны ў Берасцейскую крэпасць дзеля перафармавання. Цэлую вясну Балаховіч прасіўся на фронт, але дазволу не атрымоўваў. Атрад не быў таксама ўключаны ў беларускае войска ўрада Луцкевіча.

Сапраўды, лёс Балаховіча быў ужо вырашаны, але толькі ў галаве начальніка польскай дзяржавы Восіпа Пілсудскага. Той нікому не сказаў, што задумаў, але сцвердзіў, што час Балаховіча яшчэ прыйдзе.

/працяг будзе/

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### ЛОДКА НА БАСЕЙНЕ

Пытае Яўгена
Карпатлівы тата:
- Уражанняў з басейна
У цябе багата?

- Хочаш мо адказу,
Што мой лёс салодкі?
Мы наступным разам
Завязем там лодку!

### ПАЦАЛУНАК КЛЯМКІ

Выйшла з хаты мама,
Адчыніла брамку,
А малы Адамак
Цягнецца да клямкі.

- Учора ж сказала
Суседка Антолька,
Што пацалавала
Нашу клямку толькі!

### МАЛАКО ДЫХАЕ?

Раніцай Ганулі
Аніяк не спіцца.
Малако ў каструлі
Пачало варыцца.

- Глянь толькі, матуля, -
Сказала малая, -
Малако ў каструлі
Моцна... аддыхае!

### КОЛЬКІ БУДЗЕ?

- Адкажы ты мне, Яфрэм,
На пытанне:
Колькі будзе сем ды сем -
З дадавання?

- Такой лічбы, мілы Стах,
Не бывае,
Бо мне пальцаў на руках
Не хапае!



*Фота Петруся Пракопчыка.*



*Алеся ў лесе.* **Фота А. Максімюка.**

## УЗВІЖАННЕ, ЗДЗВІЖАННЕ

*(УЗДЗВІЖАННЕ КРЫЖА ГАСПОДНЯ)*

Уздзвіжанне - адно са значных хрысціянскіх свят у гонар Крыжа - сімвала выратавання чалавечага роду. Калі хрысціянства было прынята ў Рымскай імперыі, імператрыца Алена (маці імператара Канстанціна Вялікага, IV ст.) здзейсніла паломніцтва ў Ерусалім, каб адшукаць рэшткі крыжа, на якім на гары Галгофа быў распяты Ісус Хрыстос. Крыж быў знойдзены і пастаўлены ("воздвигнут"), як святыня, для ўшанавання.

Народнае тлумачэнне назвы свята немудрагелістае: "К Здзвіжанню ўсё павінна быць здзвінута", г. зн. усе азіміны і яравыя павінны быць звезены з поля. Восень ужо добра заявіла пра сябе: "На Узвіжанне халат з плеч, а кажух на плечы". Гэта апошняе свята, якое канчаткова развітваецца з цяплом. Ключы ад лета - у шызай галачкі, якая, адлятаючы ў гэты дзень у цёплыя краі, замыкае яго і забірае з сабою ключы. Апрача адлёту птушак, у прыродзе існавала яшчэ адно "здзвіжанне" - з нораў выпаўзалі ўсе змеі і збіраліся разам, каб адправіцца на зімовы сон да вясны: "Здзвіжанне - гадзюкі здзвігаюцца ў кучу". Першы вясновы і апошні восенькі зміяныя ўкусы лічыліся самымі небяспечнымі, таму на Узвіжанне пабойваліся хадзіць у лес, асабліва ж наказвалі тое дзецям. Легенды пра сыход змей на Узвіжанне пашыраны ў беларускім фальклоры. На чале змяінага шэсця заўсёды выступае Цар-змей з залатой каронай, а за ім - незлічоныя падданыя-паўзуны. Цар вылучаецца сярод усіх сваёй велічынёй і лускай з серабрыстым адлівам. Шэсце рухаецца па непраходных для чалавека мясцінах, і калі раптам камусьці здаралася сустрэцца са змяіным "выраем", то варта было рассцяліць перад Царом абрус з хлебам-соллю і пакланіцца да зямлі, як той, прапаўзаючы праз абрус, у падзяку скідаў з кароны залаты ражок. Уладальнік такога ражка набываў незвычайную мудрасць і праніклівасць, здольнасць угадваць чужыя думкі, выходзіць з самых цяжкіх абставін; на яго таксама не дзейнічаў змяіны яд. Нягледзячы на страх перад змеямі, Узвіжанне на Палессі з'ўлялася першым днём агульнага збору журавін.

УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ

МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ

## КАЛЫХАНКА

Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Кот зрабіў
Хадулі.
Шыбаваў дамоў
Наўпрост,
Наступіў сабе
На хвост.
Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Кінуў ён
Хадулі,
І - наўскач да хаты,
Кот дзі-
ва-
ка-
ва-
ты!
Боль суняўся,
Боль мінуў,
Кот хвастом-трубой
Вільнуў,
Паляцеў
Як куля -
Падабраць
Хадулі.
Доўга-доўга
Кот блукаў,
А хадуль
Не адшукаў.
Лю-лі, лю-лі, лю-лі!
Хто
Забраў
Хадулі?

## ВОЖЫК І СОНЦА

Загарэць
Надумаў вожык.
Ад вачэй
Да самых ножак.
Абадраў з калючак
Мох,
На грудку
На сонцы
Лёг.
- Прыставай хутчэй, загар,
Асмужы
Спіну і твар!
Праляжаў ён
Сем гадзін,
Сон пабачыў
Не адзін,
Ды,
Каб той загар узяўся,
Не адчуў,
Не дачакаўся.
- Сонца,
Ты з мяне смяешся:
Слаба грэеш,
Не бярэшся.
Ці табе шкада
Загару?
Мець яго
З вясны я мару...
Сонца
Нібы ўсё пачула,
Долу
Глянула прачула,
Усміхнулася прыгожа:
- Ты дзівак, напэўна,
Вожык...
Я нікольки
Не смяюся.
Проста
Трошачкі баюся.
А чаго
Цябе баюся,
Знаеш сам, -
Яшчэ ўкалюся!

МІКОЛА ГАНЧАРОЎ

## ТВАЯ КНІЖКА

Вось кніжка прыйшла
Да цябе на парог.
А колькі прыйшлося
Ёй зведаць дарог!
Свой шлях пачала яна
Тут, за сталом.
Пісаў яе аўтар
І ноччу і днём.
Старонка ляцела
Услед за старонкай,
І ціхае слова
Рабілася звонкім.

Нястомна машынка
Пасля стракатала.
У рэдакцыі
Рукапіс той прачыталі.
А потым малюнкі
Мастак маляваў.
Радкі у друкарні
Наборшчык набраў.
Стараліся
У цэху друкарскім
Машыны,
Лажыліся ў стосік
Старонкі няспынна.
Пасля іх у кнігі
Умела сшывалі.
У касцюмчыкі вокладак
Паапраналі.

За кніжкаю кніжка
У свет паляцелі.
І весела вокладкі іх
Зіхацелі.
Хацелі ў твой дом
Прыляцець як хутчэй,
Каб стала на сэрцы
І ў доме святлей.

Вунь поле барознаў
Радкамі світае -
Ты кніжкі цікавай
Старонкі гартаеш.
І ў далеч бязмежную,
Недзе за хмары,
На крылах імклівых
Імчаць цябе мары.



## ПАХОДЖАННЕ ГЕРБА ПАГОНЯ

Старажытны беларускі герб Пагоня вядзе сваё паходжанне з далёкіх глыбінь мінулага. Адна з самых ранніх яго выяў на Беларусі - на пячатцы полацкага князя Глеба Гедымінавіча (1330 г.), яшчэ раней - на пячатках смаленскага князя Аляксандра Глебавіча (1279 г.) і наўгародскага князя Аляксандра Неўскага (сярэдзіна XIII стагоддзя). Пры пошуку ж вытокаў аказваецца, што падобная выява - "фракійскі вершнік" - задоўга да нашай эры была вядома ў Фракіі і Мезіі (зараз тэрыторыя Балгарыі). У хетаў, якія жылі ў II тысячагоддзі да н.э. у Малой Азіі, вядома божышча - вершнік Пірва. Нагадваючы Пагоню малюнак вершніка з трыма маланкамі над ім меўся на славянскай пасудзіне VII-VIII стагоддзяў з Польшчы. Па паходжанню Пагоня звязана з культам каня, які быў шырока распаўсюджаны ў славян і балтаў. У беларусаў апекуном коней лічыўся святы Юрый. У язычніцкія часы папярэднікам святога Юрыя быў Ярыла, а ў частцы заходніх славян - Яравіт. Некаторыя аўтары XII стагоддзя пісалі пра Яравіта як пра бога вайны, бо ў час паходу залаты шчыт Яравіта неслі наперадзе войска. На некаторых абразах святога Юрыя малявалі са шчытом, на якім - выявы сонца ў выглядзе чалавечага твару ў фас. Даследаванні старажытнай міфалогіі сведчаць, што Ярыла акрамя функцыі урадлівасці ўвасабляў сабой воінскую функцыю і ў гэтым сэнсе мог лічыцца адной з постацяў або сынам Перуна - славянскага бога грому, маланкі і вайсковай справы.

Язычніцкае паходжанне Пагоні вынікае і з такога яе элемента, як шасцікутны крыж на шчыце вершніка. Выявы такіх крыжоў ёсць на сярэднявечных надмагільных камянях з Гродзеншчыны. Падобны крыж адлюстраваны на адной з язычніцкіх рэчаў пачатку XIV стагоддзя з Ноўгарада. Шасцікутныя крыжы выбіты на бляшках налобнага вянка з паўднёва-усходняй Літвы (XIII-XIV стст.). Такія ж выявы ёсць на алавяных пломбах са старажытных Віцебска і Дарагічына-Надбужскага, падвесцы з Латвіі (XII ст.). Усе гэтыя рэчы па паходжанню звязаны або з Беларуссю, або з уплывам старажытных крывічоў. Шасцікутны крыж, хутчэй за ўсё як сімвал сонца, трапляецца і ў арнаменце беларускага народнага ткацтва.

У сярэднявеччы адбылося пераасэнсаванне язычніцкага паводле паходжання сімвала, які служыў прататыпам герба Пагоня. Ён пачаў стасавацца з абавязкам усіх мужчын са зброяй у руках абараняць Радзіму - Вялікае княства Літоўскае. Гэты абавязак таксама называўся Пагоняй, а вершніка на гербе ў позніх летапісах сталі звязваць з князём - абаронцам роднай зямлі.

ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ



*Ці памятаеце „Чабарок"?* Фота М. Лукшы

## ЯК ВАВЁРАЧКА ЗІМУ СУСТРАКАЛА

КАЗКА

З ранку да вечара стараліся вавёрачкі. У дуплах дрэў назапасілі арэхаў, а на сучках грыбоў насушылі. Толькі адна вавёрачка да зімы не рыхтавалася. Скакала з галіны на галіну, весялілася. Сонца высока падымецца, а яна яшчэ спіць. Думала, пэўна, што лету і канца не будзе.

Так і восень наступіла. Сонца ледзь свеціць, дожджык імжыць. Намокла футра ў вавёрачкі, а пагрэцца, абсушыцца няма дзе. Хутка і снег пайшоў, маразы прыціснулі. Холадна стала вавёрачцы, галадае. Убачыла яна на елцы акуратны домік і пастукала слабай лапкай у акенца. Глядзіць - аж там яе сястрычка жыве. "Ой, ты ж уся ад холаду дрыжыш, - паспачувала гаспадынька і запрасіла: - Хуценька ў домік залазь!"

Адагрэлася вавёрачка, выспалася. На сняданак сястрычка пачаставала яе духмяным баравічком. Запрашалі ў госці, дапамагалі вавёрачцы і іншыя сястрычкі. Грэлі яе ў сваіх доміках, дзяліліся арэхамі і сушанымі грыбамі.

А калі прыгрэла сонца і пачаў раставаць снег, вавёрачка сказала сваім сястрычкам: "Дзякуй вам! Не пакінулі мяне ў бядзе. Цяпер я ведаю, як трэба зіму сустракаць".

ІВАН ГАЛУБОВІЧ

## СУМЛЕННЫ

- Памятаеш, мама, ты казала, што калі я атрымаю чацвёрку, дык буду гуляць цэлы дзень?
- Памятаю, сынку. А што?
- Сёння я буду гуляць толькі паўдня...

## ЗЯМЛЯ КРУГЛАЯ!

На ўроку геаграфіі настаўнік спытаў:
- Скажы, Віця, якую форму мае Зямля?
- Круглую.
- Малайчына. А чым ты можаш даказаць?
- Глобусам!

ДЗМІТРО ПАЎЛЫЧКА

## ПТУШКА



Няволя птушцы, як сухмень крыніцы.
Не чуе дабрыні ў маіх руках:
- Не дам табе вадзіцы і пшаніцы,
Мая ты пташка, звонкай песні ўзмах!
- Хіба няма густога жыта ў полі?
Хіба ў гаях крынічанькі няма?!
Пусці мяне, мой хлопчык, дай мне волю -
І ўсё, што трэба, я знайду сама.
- Пяшчотна я цябе трымаю, пташка,
Дзівіся на гасцінны ціхі сад.
Ці ж то няволя? Хіба гэта цяжка
Узяць з далоні некалькі зярнят?
-Пусці мяне! Бо мне,
мой хлопчык мілы,
Бліжэй свабода, чым дары твае.
Лагодная рука, ды мае сілу,
Раскрыць шырока крылы не дае!
- Ляці! Спявай сабе над кожным домам,
Усё зразумеў, хоць маю толькі сем.
Мая рука ніколі і нікому
Ні крыўды, ні бяды не прынясе!



# ЧОРТ ТУТ НІ ПРЫ ЧЫМ

Так ужо завялося, што летам, асабліва ў канікулярны час, людзі вышукоўваюць розныя сенсацыі, каб хаця крыху ажывіць сваё штодзённае, шэрае, манатоннае жыццё. Сёлета адна з беластоцкіх газет паінфармавала, што ў сяле Чарторыя /у Ломжынскім ваяводстве/ хтосьці прыкмеціў "чортавыя кругі". І пайшлі здагадкі: чыя гэта справа-касмітаў ці чэрцяў? А тут няма аніякай сенсацыі!

"Чортавыя кругі" гэта рэдкія, праўда, выпадкі лінейнага вырастання некаторых відаў грыбоў, але ўсё ж такі вядомы яны навуцы /навука аб грыбах называецца мікалогіяй/ і ёю дастаткова абследаваны!

Круг грыбоў паяўляецца ў наступстве прамяністага ўзрастання грыбніцы, развіваючайся з адной споры або гнязда трэпак. Бывае і так, што круг узнікае ў выніку аднлачасовага развіцця грыбніцы ў некалькіх пунктах. Не раз грыбы фарміруюцца ўздоўж эліпсаідальнай лініі. Тэмп разрастання грыбніцы ў "чортавым крузе" можа быць розны, а некаторыя кругі могуць нават на сябе накладацца.

Зразумела, што разрастанне грыбніцы мусіць прычыняць вычэрпванне прыродных харчовых субстанцый у такім месцы. Грыбніца пранікае ў розныя пласты, унутры круга жа астаецца старая, няздольная да інтэнсіўнага росту; над ёй цэнтрабежна разрастаецца маладая грыбніца. На ўскраіне кругоў грыбніца расце хутка, павялічваючы сваю масу і багата плоданосіць. Накапленне грыбніцы выклікае ў глебе фізічна-хімічныя змены, уздзейнічае таксама на акружаючу расліннасць. Глеба ў гэтым месцы надта мяняецца, з чорнай і вільготнай становіцца падзолістай, пыльнай і сухой. Вада тут не праходзіць нават у пласты зверху, і гэта ёсць прычынай высыхання раслін. Іншым, дабавачным фактарам, які стрымлівае рост раслін /а нават даводзіць да іх замірання/, з'яўляецца вялікая канцэнтрацыя азотных спалучэнняў і шкодных субстанцый у пластах старой грыбніцы.

У Польшчы даследаванні над "чортавымі кругамі" праводзілі ў сямідзесятых гадах Барбара Гумінская /на лугах у Пенінскім нацыянальным парку/ і Барбара Садоўская /на лугах у ваколіцы Варшавы/. Рэзультаты іх даследаванняў былі апублікаваны ў спецыялістычных навуковых часопісах.

**ПЁТР БАЙКО**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

У розных краінах імёны людзей складаюцца па-рознаму. У немцаў, англасаў і большасці скандынаўскіх народаў яны складаюцца з індывідуальнага імя і прозвішча (па імені або прозвішчы бацькі): скандынаўскае Ларсен, шатландскае Макдональд, ірландскае О'Кейсі азначаюць сын Ларса, Дональда, Кейсі. У Ісландыі прозвішча наогул не існуе: тут, напрыклад, Бенедзіхтсан, што азначае сын Бенедзіхта, з'яўляецца прозвішчам па бацьку. У чукчаў імя азначае аднлачасова і прозвішча.

У жыхароў краін, якія спавядаюць каталіцызм, — па некалькі імён, звычайна гэта імёны каталіцкіх святых. Адзін з членаў партугальскай каралеўскай сям'і меў 14 імён і 5 прозвішчаў. Аднак за кожнае імя трэба было плаціць асобна, таму бедныя абмяжоўваліся двума-трыма. А дасціпныя французы прыдумалі імя Тусэн, што азначае „Усе святыя", — яно і цяпер шырока распаўсюджана ў Францыі і ў Амерыцы. У іспанцаў прозвішча двайное — Энрыке Перес Радрыгес (Перэс — прозвішча бацькі, Радрыгес — маці). Існуюць і ўзаемазаменныя імёны і прозвішчы: Жэрар Філіп і Філіп Жэрар.

Кітайскія імёны складаюцца з двух элементаў. У імені Лі Бочжао першая частка — прозвішча або імя бацькі, другая і трэцяя — двухскладовае індывідуальнае імя. У в'етнамскіх імёнах тры або два элементы: прозвішча па бацьку, характэрная, але неабавязковая часцінка „ван", якая азначае мужчынскі пол, або „тхі" — жаночы, і ўласнае імя: Нгуем Ван То, Фам Тхі Тхінь. Японцы на першае месца ставяць прозвішча, затым уласнае імя — Камікава Хікамацу. Да жаночага імя дадаецца характэрны суфікс „ка" — Харука. Існуюць і „лічбавыя" імёны: Іціра, Дзіра — першы, другі.

У ходзе гісторыі сістэмы імён змяняліся. Так, у Расіі прозвішча было ўведзена яшчэ пры Пятры І, а ў краінах Паўночнай Афрыкі і Сярэдняй Азіі — толькі паўстагоддзя назад.

**(А—ЦЯ)**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прыснілася, быццам я абрэзала сабе валасы. Што гэта можа абазначаць?

**Анюта**

Мне прысніўся дзіўны сон. Выступае ў ім перш за ўсё мой сябра, які цяпер знаходзіцца за граніцай. Быццам бы вось вяртаецца ён ужо дахаты. Ляціць самалётам. Я ведаю, што гэтым жа самалётам ляціць і мая дачка. Я, быццам на далоні, бачу ўсё, што дзеецца ў самалёце. Бачу людзей і сцюардэс.

Раптам гляджу, а мой сябра /той, што вяртаецца з-за граніцы/ бавіцца ў цырульніка. На крэсле пасярэдзіне самалёта стаіць крэсла. На ім сядзіць мой дваюрадны брат, а мой сябра стрыжэ яго. Што можа абазначаць гэты сон?

**Ніна**

Анюта і Ніна! Калі сняцца валасы густыя і прыгожыя ў сябе ці ў іншага, абазначаюць яны багацце і сілу. Калі ж сніцца, што валасы выпадаюць - так і чакай хваробы і беднасці. Абразанне валос магло б сведчыць пра нейкую ўтрату, пагоршанне здароўя ці паменшанне грошай, а нават і скарачэнне штату.

Вельмі характэрны ў гэтых адносінах твой сон, Ніна. Выглядае, што той твой сябра, які вяртаўся з-за граніцы, "астрыжэ" вашага брата, маю тут на думцы, вядома, цябе. Будзеш мець праз яго нейкія праблемы, бадай, фінансавага тыпу. Не ўваходзь з ім у ніякую суполку!

**АСТРОН**



### З ГРЭЦКАЙ КУХНІ

**Фаршыраваныя памідоры**

Прадукты: 10-12 сярэдніх памідораў, 2 лыжкі цукру, 15 дэкаў масла, 1 сярэдняя цыбуліна, 50 дэкаў зьмеленай ялавічыны, 10 дэкаў рысу, зяляніна пятрушкі, соль, перац, паўлыжачкі карыцы (цынамону), сцертая сухая булка.

Абрэзаць вярхі памідораў, выскрабці лыжачкай сярэдзіну, працерці гэта праз друшляк. Паставіць чарапкі памідораў у посуд для запякання, усыпаючы ў кожны па паўлыжачкі цукру. Разагрэць палову масла на патэльні, палажыць дробна пасечаную цыбулю, дадаць мяса і смажыць хвіліну. Дадаць рыс, жменю пасечанай зяляніны пятрушкі, карыцу (цынамон) і палавіну перацёру з памідораў, соль і перац. Накрыць і тушыць на невялікім агні 10 мінут. Зняць з агню, астудзіць.

Напоўніць памідоры да 3/4 вышыні, бо рыс набрыняе. Накрыць абрэзанымі вярхамі. Растапіць рэшту масла, паліць ім памідоры, пасыпаць сцертай булкай. На дно ўліць рэшту перацёру. Уставіць у нагрэтую духоўку і пячы паўтары гадзіны.

Такім жа чынам можна фаршыраваць зялёныя струкі папрыкі і запякаць яе разам з памідорамі.

**ГАСПАДЫНЯ**



# РАЗЕТКА НА "Ц" І "Ч"

**Управа:** 1/ ніколі не была аранай, 2/ даўнейшыя ўкраінскія вандроўныя гандляры, 3/ будуе дамы з дрэва, 4/ венгерскі народны танец, 5/ дзіця з пекла родам, 6/ народ, які не мае сваёй зямлі, але мае свайго караля, 7/ праваслаўны храм, 8/ у тыдні.

**Улева:** 1/ частка лука, 2/ жыве каля аргенцінца, 3/ важны элемент бетону, 4/ не ўсё, 5/ мае доўгае мяккае цела без канечнасцей і ярка выражанай галавы, 6/ чалавек, быццам абрубак дрэва, 7/ рухаецца па чыгунцы, 8/ ляжанка на рускай печы.

**ядань**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 33 н-ра. Управа:** уваход, урывак, ужытак, унучка, умалот, унітаз, уранат. **Улева:** упадак, уладар, узыход, учынак, угодкі, ураган, унісон.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.



**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Ялянта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

**Prenumerata.**
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**ПОВЯЗЬ ВЯКОЎ**

- З адной ракі
Цякуць вякі.
- А толк які?

**ВЯСЕЛЯЧЫ ГАЗ**

Новы лідэр паддаў газу
На прыватніцкую базу.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ІМПАРТГУМАР

П'яны мужчына стаіць ля ліхтарнага слупа, стукае па ім кулакамі і гаворыць:
- Жонка... Адчыні... Адчыні, гавару...
Да яго падыходзіць міліцыянер:
- У чым справа, грамадзянін?
- Ды вось, жонка дамоў не пускае...
Міліцыянер стукае па слупе кулаком:
- Грамадзянка! Адчыніце!

* * *

- Абвінавачваемы, вы назвалі сабаку Джонсанам. Гэтым вы яўна хацелі абразіць свайго суседа па прозвішчу Джонсан.
- Нічога падобнага! Гэтым я хацеў абразіць сабаку.

* * *

Дзюран атрымаў ліст ад свайго сябра лекара. Почырк у лекара быў такі дрэнны, што Дзюран не мог разабраць ні слова. Успомніўшы, што аптэкары славяцца ўменнем разбірацца ў самых неразборлівых почырках, ён пайшоў у найбліжэйшую аптэку і працягнуў ліст.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**





*– Чаго не зробіш, каб дзіця не плакала.* **Мал. А. Шабана**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Было гэта недзе ў 1955-1957 гадах у прыходзе С. у Сакольскім благачынні. Тады якраз у вёсцы С. праводзілася камасацыя грунтаў - ліквідавалі цераспалосіцу і, як гаварылі самі жыхары вёскі, сялянам "давалі каленіі". Пры нагодзе больш зямлі было адведзена пад могільнік. Яго граніцы пашыраліся з усіх чатырох бакоў і трэба было разбурыць старую каменную агароджу і паставіць новую. Прыхаджане вельмі марудна падыйшлі да справы, работа замарудзілася і не было відаць яе канца.

На Уваскрэсенне Гасподняе, калі ў царкве было вельмі многа людзей, настаяцель А. М. вырашыў змабілізаваць прыхаджан да больш руплівай працы. У пропаведзі ён сказаў, што яму ў снах з'яўляюцца нябожчыкі і моцна просяць даканчыць агароджу і ўпарадкаваць увесь могільнік. На заканчэнне сказаў ён прыблізна так:

- І так, дарагія прыхаджане, трэба цвёрда ўзяцца за работу. У бліжэйшы час вы павінны закончыць будову каменнай агароджы і паставіць жалезныя вароты...

Каля мяне стаяў мой сябра А. Т. /тады было яму 12 гадоў/, які галаснавата шапнуў мне: "І так не паўцякаюць". У царкве было ціха і ўсе пачулі ягоныя словы. Сабраных ахапіў смех і бацюшка ўжо не мог дакончыць пропаведзі.

З гэтага часу прайшло многа гадоў. Каменны мур вакол могільніка стаіць, але жалезных варот да сённяшняга дня няма. Відаць таму, каб не перашкаджаць нябожчыкам сустракацца з жывымі і наадварот.

* * *

У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў нашага стагоддзя дзяўчынка, вучаніца V класа, пасвіла кароў і авечак на бацькоўскім полі. Непадалёку таксама сваю жывёліну пасвіў стары дзядуля. Падыйшоў ён да дзяўчынкі і стаў расказваць ёй анекдоты, якія здаліся ёй брыдкімі і бессэнсоўнымі. Дзяўчынка адазвалася да старога:
- Дзеду, дурны ксёндз вас хрысціў.
- Бо тады мандрэйшых не было, - адказаў дзядуля.

**УЛАДЗІМІР ЦІЛЮЛЬКА,**
**Саколка**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Усе мяне асуджаюць за тое, што я нарадзіла дзіця, ды яшчэ няшлюбнае. Кажуць: як яна выхоўваць яго будзе, што з яго вырасце?!. Яна ж сляпая!

Гэта праўда, на жаль, Сэрцайка. Не бачыла я і бацькі дзіцяці. Чула толькі яго мілы голас і цешылася яго пяшчотамі. А я і не гневаюся, што ён са мною не ажаніўся. Што ж я была б яму за жонка, як жа ж бы я ім апекавалася? Гэта ж ён мусіў бы ў хаце рабіць за бабу. З мяне пацеха малая. Але дзіцятка, думаю, неяк выхаваю, крыху і мама дапаможа і суседзі. Але не хачу сказаць, што я разлічваю толькі на чужыя рукі. Сама буду старацца рабіць, вобмацкам, памаленьку.

Людскія языкі злыя, а сэрцы нячулыя. А мо я таксама хацела б мець некага адданага ў жыцці, да каго магла б у любы момант прытуліцца, каго магла б пацалаваць, пагладзіць па галоўцы, бо яно – маё...

А можа, як ужо дзіця вырасце, калісь яно мяне павядзе і дапаможа мне, як я яму... Яно ж мне абавязана жыццём!

Як ты думаеш, Сэрцайка, ці добра я зрабіла?

**Эмілька**

Дарагая Эмілька! Перш ўсё хацелася б, каб ты пазбылася камплексаў: сляпыя людзі таксама, жэняцца і выходзяць замуж! Як відучыя, так і сляпыя жанчыны нараджаюць дзяцей /шлюбных і няшлюбных/. Ты шкадуеш бацьку дзіцяці і прабуеш зразумець яго. Відаць, проста ты яму падабалася, але не кахаў цябе. Калі б кахаў - ажаніўся б і ўзяў на сябе частку тваіх абавязкаў. Ну, што ж, з гэтым каханнем па-рознаму бывае і ў здаровых.

Вядома, прынамсі на пачатку чакае цябе цярністая дарога. Ты яшчэ можаш выйсці замуж, але не цяпер. Людзі рэдка просяць руку з літасці, калі чалавеку якраз патрэбная дапамога. Можаш выйсці, але тады, калі адхаваеш дзіця, будзеш выспаная, папрыгажэеш, а мама табе дапаможа прыгожа апрануцца ды падмалюе цябе. А цяпер цябе чакае праца і яшчэ раз праца. Людзі, якія будуць табе спачуваць, не надта кінуцца дапамагаць бескарысна, бо і самім ім сёння як завязаць. Калі камусьці цяжка - людзі наогул спачуваюць, але ад гэтага табе лягчэй не будзе. Мусіш перш за ўсё разлічваць на сябе, ну і можа на маці.

Што датычыцца дзіцятка твайго, тваёй адзінай сёння радасці, дык мусіш быць таксама падрыхтаванай да ўсяго. Рэдка калі дзіця імкнецца дзякаваць сваім бацькам за падараванае жыццё. Хутчэй кіне табе, што яно на свет не прасілася. А яшчэ будзе мець да цябе прэтэнзіі за тое, што ты не бачыш і бацькі яму не дала.

Кожнаму дзіцяці могуць часам прыйсці ў галаву сумненні такога тыпу, што магло ж бы яно нарадзіцца ў лепшай ці багацейшай сям'і. А што ўжо гаварыць пра тваё – яно ж будзе мець да гэтага падставы. Так што ў гэтай справе на многае не разлічвай. Нічога не рабі для будучай падзякі, а мо ўсё выйдзе як найлепш.

**СЭРЦАЙКА**